ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (107) люты 2020 год
CATHOLICNEWS.BY

# Віцебскаму “Карытас” – 20 гадоў

Стар. 8-9

## В Барановичах прошёл фестиваль христианской музыки “Достучаться до небес”



Стар. 4

## Ці магу я прыняць сакрамант бежмавання, калі жыву ў другім шлюбе без вянчання?

Стар. 11

## Хто можа прымаць сакрамант намашчэння хворых?

## Некалькі думак пра прабачэнне



Стар. 12-13

## Дзеці ў касцёле

Парады святара



*Чытайце парады кс. Станіслава Мжыглуда SDS на старонцы 5*

Больш матэрыялаў чытайце на сайце Catholicnews.by



# Папа: “Слёзы па прычыне нашых грахоў – гэта бласлаўленне!”



**“Любіць шчодра, з усмешкай, блізкасцю, служэннем, а таксама са слязамі”, – заклікаў Святы Айцец падчас агульнай аўдыенцыі, якая 12 лютага прайшла ў ватыканскай Зале Паўла VI.**

Папа прысвяціў катэхезу другому евангельскаму бласлаўленню: “Шчаслівыя засмучаныя, бо яны будуць суцешаны” (Мц 5, 4). Ён заўважыў, што на грэцкай мове гэта бласлаўленне выказана не ў пасіўнай форме, а актыўнай: “якія засмучаюцца”, плачуць з глыбіні душы. Гаворка ідзе пра досвед, каторы айцы-пустыннікі, першыя ў гісторыі манахі, называлі “penthos”. Ён азначае ўнутраныя пакуты, што адкрываюць на адносіны з Панам і бліжнім.

Пантыфік нагадаў, што ў Святым Пісанні такі смутак можа мець два аспекты: узнікнуць па прычыне смерці ці пакут іншага чалавека, а можа быць выкліканы ўласным грахом, “калі сэрца абліваецца крывёю ад таго, што абразілі Бога і бліжняга”.

Гаворачы пра першы аспект, Святы Айцец падкрэсліў, што ёсць людзі, якія заўсёды трымаюцца на дыстанцыі ад іншых. У той жа час важна, “каб іншыя прабілі адтуліну ў нашым сэрцы”. “Я часта казаў пра дар слёзаў і яго каштоўнасць. Ці магчыма любіць халодна? Ці магчыма любіць у сілу абавязку? – Вядома, што не. Існуюць засмучаныя, якіх трэба суцешыць, але ёсць таксама і суцешаныя, якіх трэба засмуціць, абудзіць. Гэта людзі, якія маюць каменнае сэрца і развучыліся плакаць. Трэба абудзіць тых, каго не кранае боль іншых”, – сказаў Папа.

Францішак заўважыў, што горкім, але карысным досведам можа стаць нават жалоба, бо яна дапамагае “расплюшчыць вочы на жыццё, на сакральную і незаменную каштоўнасць кожнага чалавека”. У такія хвіліны мы ўсведамляем, наколькі хуткаплынны час, – дадаў Папа.

Каментуючы другое значэнне “гэтага парадаксальнага бласлаўлення” – засмучацца па прычыне ўласнага граху, – Святы Айцец заклікаў да пранікліваcці. Ён заўважыў, што “ёсць людзі, якія раздражняюцца, калі памыляюцца, а гэта пыха. Адваротная з'ява – плач па прычыне ўчыненага зла, нязробленага дабра, здрады адносінам з Богам”, – лічыць Пантыфік.

“Гэта плач ад недахопу любові, які ўзнікае, калі мы маем у сэрцы жыццё іншых. У такой сітуацыі мы плачам, бо не адпавядаем Пану, Які нас моцна любіць. Нас засмучае сама думка пра дабро, якое мы не зрабілі. Гэта адчуванне граху. Такія людзі кажуць: “Я параніў таго, каго люблю”, і гэта іх засмучае аж да слёз. Няхай жа будзе бласлаўлёны Бог, калі мы будзем мець такія слёзы!”, – падкрэсліў Папа.

Францішак нагадаў, што для св. Пятра смутак па прычыне здрады стаў шляхам да “новай і значна большай любові”, ачысціў і абнавіў яго сэрца, а для Юды, які не прыняў уласнай памылкі, наадварот, стаў прычынай самазабойства. Папа заўважыў, што ўсведамленне граху – гэта Божы дар і плён Святога Духа, пра які трэба прасіць.

Пантыфік спасылаўся на словы св. Яфрэма Сірыйскага, які казаў, што “твар, абмыты слязамі, з'яўляецца невымоўна прыгожым”. У ім ёсць прыгажосць пакаяння, плачу, скрухі.

“Як заўсёды, хрысціянскае жыццё найлепшым чынам выражаецца ў міласэрнасці. Мудры і шчаслівы той, хто прымае боль, звязаны з любоўю, бо атрымае суцяшэнне Святога Духа, якім ёсць пяшчотнасць Бога, Каторы прабачае і папраўляе. Бог заўсёды прабачае. Не будзем забываць пра гэта. Бог заўжды прабачае, нават самыя страшныя грахі. Праблема ў тым, што мы стамляемся прасіць прабачэння…”, – нагадаў Папа.

Пантыфік падкрэсліў, што Бог “не паступае з намі паводле грахоў нашых і паводле правін нашых нам не адплачвае”. Праз усведамленне гэтага мы зможам жыць у міласэрнасці, спагадзе, і ў нас праявіцца любоў. “Няхай Пан дазволіць нам любіць шчодра, любіць з усмешкай, блізкасцю, служэннем, а таксама са слязамі”, – пажадаў Святы Айцец на заканчэнне катэхезы.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Святы Айцец прыняў Прэзідэнта Украіны

**8 лютага Святы Айцец Францішак прыняў на аўдыенцыі Прэзідэнта Украіны Уладзіміра Зяленскага. Затым украінскі лідар сустрэўся таксама з кардыналам Дзяржсакратаром П’етра Паралінам.**

Перамовы ў Дзяржаўным сакратарыяце былі галоўным чынам прысвечаны гуманітарнай сітуацыі і пошуку міру ў кантэксце канфлікту, які з 2014 года дагэтуль трывае на тэрыторыі Украіны. У сувязі з гэтым выказваліся супольныя пажаданні, каб усе бакі праявілі найбольшую ўвагу да патрэбаў насельніцтва, якое з'яўляецца першай ахвярай гвалту, а таксама прадэманстравалі адказнасць і паслядоўнасць у дыялогу.

Былі таксама разгледжаныя тэмы, якія датычаць двухбаковага супрацоўніцтва і ўкладу Каталіцкага Касцёла, прысутнага ў краіне ў розных абрадах.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# “24 гадзіны для Пана” 2020 – “Адпускаюцца табе грахі твае”




**Святы Пасад заклікае вернікаў ва ўсім свеце прыняць удзел у ініцыятыве “24 гадзіны для Пана”. Сёлета яна пройдзе 20-21 сакавіка пад дэвізам: “Адпускаюцца табе грахі твае” (Лк 7, 48)**

Галоўная літургія ў межах акцыі пройдзе 20 сакавіка ў базыліцы Святога Пятра, і ўзначаліць яе Папа Францішак. Бясплатныя білеты для ўдзелу ў ёй можна замовіць на сайце Папскай рады па новай евангелізацыі, што з'яўляецца галоўным арганізатарам і каардынатарам ініцыятывы.

Першыя “24 гадзіны для Пана” прайшлі ў 2013 г. Сутнасць акцыі ў тым, каб у кожнай дыяцэзіі ў свеце прынамсі адзін касцёл заставаўся адчыненым бесперапынна на працягу 24 гадзін, каб усе, хто жадае, мелі магчымасць правесці час у малітве і паспавядацца.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

## Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны пятніцу з 17.00.

Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298

## Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**



# Ірландскі святар хоча выступіць на конкурсе песні Еўрабачанне

**Каталіцкі святар і спявак з Ірландыі 66-гадовы Рэй Кэлі спадзяецца, што зможа прадстаўляць сваю краіну на найбліжэйшым конкурсе песні Еўрабачанне.**

Часопіс "The Irish Catholic" у выпуску ад 6 лютага паведаміў, што святар, якога ў цяперашні час можна ўбачыць у ірландскай версіі "Танцы з зоркамі", ужо мае песню, якую ён хоча прадставіць на конкурсе ў Ратэрдаме.

У мінулыя выхадныя кс. Кэлі нечакана прайшоў чацвёрты тур "Танцаў з зоркамі". Як падкрэслівае выданне "The Irish Catholic", фанаты прагаласавалі за яго далейшы ўдзел у конкурсе, "вядома, не за працу ног", а таму, што кс. Кэлі зачараваў іх сваім спевам і харызмай.

У размове з ірландскімі каталікамі кс. Кэлі сказаў, што ён "як трошкі спявак" хоча прынесці людзям "радасць і бадзёрасць". Пры гэтым запэўніў, што яго "вялікай любоўю" застаецца святарства.

Кс. Кэлі праславіўся ў 2014 годзе пасля выканання песні падчас аднаго са шлюбаў у сваёй парафіі ў Олдкасле (Паўночная Ірландыя). Тады для маладых ён праспяваў "Алелюя" Леанарда Коэна, але са змененым тэкстам.

Відэа гэтай песні стала хітом на YouTube. Ірландскі святар-спявак таксама браў удзел у 2018 годзе ў конкурсе "Britain's Got Talent", неўзабаве выйдзе ўжо трэці альбом з песнямі ў яго выкананні.

Нагадаем, што найбліжэйшы 65 конкурс песні Еўрабачанне пройдзе 12, 14 і 16 мая 2020 года ў Ратэрдаме.

*ekai.pl*

*пераклад Catholicnews.by*

# У Ватыкане адзначылі гадавіну Латэранскіх пагадненняў



Фотаздымак з цырымоніі падпісання Латэранскіх пагадненняў

**11 лютага 1929 г. у Латэранскім палацы ў Рыме былі заключаны пагадненні паміж Апостальскай Сталіцай і Італіяй, у выніку якіх узнікла суверэнная Дзяржава Ватыкан.**

Латэранскія пагадненні паклалі канец так званаму "рымскаму пытанню", якое ўзнікла пасля захопу Папскай дзяржавы і Вечнага горада больш маладой і моцнай Італіяй. 20 верасня 1870 г. каля 70 тыс. італьянскіх салдат увайшлі ў Рым. Папа Пій IX, войска якога складалася толькі з 10 тыс. чалавек, не аказваў супраціву і зачыніўся ў сваёй рэзідэнцыі за ватыканскімі мурамі.

Пантыфік адлучыў ад Касцёла італьянскага караля Віктара Эмануіла II, яго ўрад і парламент, забараніў італьянскім вернікам прымаць удзел у палітычным жыцці краіны-ўзурпатара і назваў непрымальнымі аднабаковыя рашэнні Італіі.

Такой пазіцыі, з большымі ці меншымі пацяпленнямі ў бок італьянскіх уладаў, прытрымліваліся ўсе наступныя Пантыфікі. Надзея на канец канфлікту ўзнікла толькі тады, калі на Пасад св. Пятра быў абраны Пій XI. Ён вырашыў, што неабходна пакласці канец супрацьстаянню і знайсці шляхі для прымірэння.

Доўгія сустрэчы і перамовы папскім дыпламатам даводзілася праводзіць з тагачасным Прэм'ер-міністрам Італіі Беніта Мусаліні. Нарэшце праз некалькі гадоў кампраміс быў знойдзены і зацверджаны ў Латэранскіх пагадненнях, падпісаных 11 лютага 1929 г.

Гэтыя дакументы складаліся з трох трактатаў: дамовы, фінансавай канвенцыі і канкардата. Першы датычыўся палітычнага статусу Апостальскай Сталіцы і прызнаваў поўную суверэннасць горада-дзяржавы Ватыкан. У ім прызнаваліся ўласнасцю Папы рэзідэнцыя ў Кастэль Гандольфа, шэраг рымскіх базылік і іншыя будынкі. Святы Пасад, у сваю чаргу, прызнаваў Каралеўства Італія і адмаўляўся ад прэтэнзій на аднаўленне Папскай дзяржавы.

У другім дакуменце Італія абавязвалася выплочваць Апостальскай Сталіцы фінансавую кампенсацыю за анексаваную тэрыторыю і ўзурпаваныя даброты. Гэтыя грошы сталі асновай для заснавання Інстытута рэлігійных спраў, вядомага як Ватыканскі банк, каторы дагэтуль дапамагае ў ажыццяўленні дзейнасці Касцёла ў розных частках свету.

Нарэшце, трэці трактат – канкардат – гарантаваў права прызначаць біскупаў выключна Папу, уводзіць абавязковае навучанне рэлігіі ў школах, забараняў разводы, надаваў манаскім супольнасцям юрыдычны статус.

11 лютага ў Ватыкане традыцыйна з'яўляецца выхадным днём.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Впервые за 60 лет в Тунисе состоялась хиротония католического епископа

**Хиротония католического епископа состоялась впервые за почти 60 лет в Тунисе. 44-летний французский священник Николя Лерну (Nicolas Lhernould) стал ординарием епархии Константины и Аннабы (Алжир).**

В хиротонии, которая состоялась 8 февраля в кафедральном соборе Туниса, приняли участие пятнадцать епископов и около шестидесяти священников. На богослужении молились несколько сотен верующих.

Последний раз христианский епископ был рукоположен в Тунисе в 1962 году – через шесть лет после провозглашения независимости этой страны. Тогда хиротония состоялась в соборе Карфагена, впоследствии закрытого и превращённого в музей.

Новый епископ родился 23 марта 1975 года в Курбевуа под Парижем. Он специалист по Отцам Церкви, жившим в Северной Африке, и полиглот: кроме родного французского, владеет английским, арабским, испанским, итальянским, немецким и португальским. Учился во Французской семинарии и Папском Григорианском университете в Риме. В сан священника был рукоположен в 2004 году в



Тунисе. Последнее время служил генеральным викарием Тунисской епархии.

Николя Лерну стал преемником Поля Дефаржа (Paul Desfarges), который в 2016 г. был назначен архиепископом Алжира. С тех пор кафедра Константины оставалась вакантной. На сегодняшний день эта церковная область объединяет шесть приходов, в ней служит около десяти священников. На территории епархии проживает 12 млн. человек, абсолютное большинство которых – мусульмане. Католиков здесь насчитывается 1500 человек.

*Благовест-инфо*

# Вьетнамские католики перед лицом коронавируса

**Учитывая распространение коронавируса, Католическая Церковь во Вьетнаме приняла меры предосторожности в своей пастырской деятельности, однако вьетнамские католики по-прежнему не пропускают воскресных Святых Месс.**



Об этом заявил секретарь Епископской конференции Вьетнама монсеньор Пьер Нгуен Ван Кхам, глава епархии Митхо.

Все приходы, монастыри и церковные структуры в 27 католических епархиях страны были предупреждены: ни в одной из церквей не проводятся собрания, конференции или молитвенные встречи, за исключением воскресных Божественных литургий. Во время этих богослужений верующие принимают Святое Причастие на руки, а не в уста.

"Большинство людей боятся заразиться и очень редко выходят из дома. Из-за вируса дети не ходят в школу, – рассказала в интервью агентству Fides прихожанка из Ханоя Мария Хонг. – Мы все обеспокоены и внимательны, но при этом не слишком встревожены: продолжаем заботиться о своём здоровье как на материальном, так и на духовном уровне. Постоянно участвуем в воскресной Мессе в приходской церкви. Конечно, те, у кого есть симптомы гриппа, остаются дома и никуда не выходят".

По словам представителей здравоохранения, Вьетнам создал полевые госпитали с тысячами коек, чтобы справиться с потенциальной вспышкой коронавируса. Около 950 вьетнамских граждан возвращаются на родину из Китая. Вьетнам имеет протяжённую границу с Китаем, и между двумя странами существуют тесные торговые и туристические связи. На сегодняшний день во Вьетнаме зарегистрировано 12 подтверждённых случаев коронавируса, причём трое инфицированных не посещали Китай. Государство наложило ограничения на железнодорожные и автомобильные перевозки, в то время как все авиарейсы в материковый Китай и из него приостановлены.

В центре города Хошимин, где подтверждены три случая коронавирусной пневмонии, две коммерческие структуры были переоборудованы в полевые госпитали общей вместимостью 500 коек. В Ханое два военных объекта преобразованы в карантинные центры вместимостью 1.500 человек, а в двух провинциях на севере Вьетнама, недалеко от границы с Китаем, были созданы больницы неотложной помощи на 3.000 пациентов. В центральном Вьетнаме, по сообщению властей, открыты медицинские центры, способные принять до 3.700 пациентов.

***Виктор Владимиров**, русская редакция Vatican News*

# У Казахстане створана Рада Традыцыйных Хрысціянскіх Цэркваў

**Тры "гістарычныя" хрысціянскія супольнасці ў Казахстане – каталіцкая, праваслаўная і лютэранская – заснавалі Раду Традыцыйных Хрысціянскіх Цэркваў, – паведаміла агенцтва Fides.**

Старшыня казахстанскага епіскапату, біскуп дыяцэзіі Святой Тройцы ў Алматы, іспанец Хасэ Луіс Мамбіела Сьера адзначыў, што стварэнню новай міжхрысціянскай арганізацыі паспрыяў у свой час яго зямляк, былы Апостальскі нунцый у Казахстане арцыбіскуп Мігель Маўры Буэндыя. Іерарх выказаў задавальненне стварэннем Рады, называючы яе "вялікім знакам еднасці".

Заснавальнікі абвясцілі публічна пра стварэнне новага аб'яднання 13 студзеня, а 25 студзеня арганізавалі першую сумесную падзею – экуменічнае набажэнства, на якое былі запрошаныя таксама вернікі іншых пратэстанцкіх супольнасцей.

**Хрысціянства прысутнічае на землях сённяшняга Казахстана з II стагоддзя, калі тут з'явіліся рымскія салдаты, паслядоўнікі Хрыста, якія трапілі ў палон да Персіі. У IV стагоддзі тут ужо існавала біскупства. У XIII стагоддзі францішканін Гільём дэ Рубрук хрысціў мясцовага князя Сартака, і гэты факт можна лічыць пачаткам евангелізацыі Казахстана. Папа Мікалай III нават стварыў Кіпчакскую дыяцэзію. Пазней, з прыходам на гэтыя землі ісламу, вера Хрыста на працягу многіх стагоддзяў амаль цалкам знікла, а пачала павольна вяртацца туды толькі ў XIX стагоддзі з ссыльнымі палякамі, літоўцамі, немцамі і іншымі народамі тагачаснай Расіі.**



Біскуп Хасэ Луіс Мамбіела Сьера, Старшыня казахстанскага епіскапата

Парадаксальна, але адраджэнне Касцёла на гэтай зямлі было выклікана жорсткімі сталінскімі чысткамі 1930-х гадоў. У выніку шмат духавенства і вернікаў апынулася ў лагерах, размешчаных на велізарнай тэрыторыі Казахстана.

Пасля развалу СССР 13 красавіка 1991 г. Ян Павел II стварыў Апостальскую адміністратуру Казахстана і Сярэдняй Азіі з цэнтрам у Карагандзе. 7 ліпеня 1999 г. ён заснаваў дыяцэзіі ў Астане, Карагандзе і Алматы і Апостальскую адміністратуру Атырау. У маі 2003 г. у Казахстане былі створаная касцельная правінцыя і заснаваная Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў.

Важнымі падзеямі ў жыцці Касцёла ў Казахстане сталі ўстанаўленне дыпламатычных адносін са Святым Пасадам 17 кастрычніка 1992 г. і візіт св. Яна Паўла II 22-25 верасня 2001 г.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# В Барановичах прошёл фестиваль христианской музыки "Достучаться до небес"

**8 февраля в г. Барановичи прошёл уже девятый фестиваль христианской музыки "Достучаться до небес".**

**Павел Слизевич**, *текст;* **Даниил Лицкевич**, *фото*

Город стал центром прославления, гостеприимно приняв более тысячи христиан со всей Беларуси. На сцене городского Дома культуры в едином Духе прославления выступили группы "The Crossway," "Новое поколение", "Rybyproject" и "Слово Жизни" (Москва).

В фойе здания организовали несколько интересных познавательных зон. У гостей была возможность познакомиться с христианскими проектами города, такими как "Встреча для студентов "Restart", лидерские курсы "Piligrim", пешее паломничество Барановичи – Будслав.

Никого не оставила равнодушным фотозона, где каждый желающий мог запечатлеть момент на память. В зоне отдыха была возможность присесть, выпить кофе. Также во время фестиваля затрагивали тему важности Библии, и организаторы предложили каждому желающему взять себе этот бестселлер совершенно бесплатно.

Это был не просто концерт, но и призыв к конкретным действиям. Вход на фестиваль был свободный, однако организаторы предложили несколько вариантов материальной помощи. В этом году было принято решение оказать поддержку фестивалю "Радуга талантов", в котором участвуют дети с особенностями в физическом развитии, но невероятно искренние, открытые и богатые духовно. Так же предлагалось помочь собрать средства для малышки Софии, которая нуждается в дорогостоящем лечении. И пусть не все могут совершить пожертвование материальное, но каждый смог пожертвовать своей молитвой об оздоровлении для неё. И, несмотря на то, что молитва была безмолвной, можно было ощутить присутствие Бога среди нас.

ДДН – это четыре часа молитвы, полных ярких эмоций, любви и величия Бога. Не просто концерт, но и мини-реколлекции, бесценный опыт единства христиан, о котором также молились во время фестиваля. Кс. Антоний Гремза перед молитвой говорил о важности единства, сравнивая его с костром, у которого греются люди. Но вот какой-то человек решает, что ему и одному хорошо, тепла хватит от его собственного уголька, и забирает его с собой… А потом второй человек, третий, четвёртый… И костёр, ослабев, тухнет. Как и угли, оказавшись одни, без окружения таких же, как они, горячих и ярких. Лишь осознав свою ошибку, сложив все угольки обратно в костёр, мы увидим, как он разгорается и разгорается с новой силой. Мы все как маленькие живые клетки Иисуса Христа. Несовершенные. Бывает, что какая-то клетка начинает умирать, уходит в грех, отворачивается от веры.

Но Иисус отдал свою жизнь за каждого из нас, независимо от того, какие мы. И наша задача – не растерять Его безгранично бесценного дара и, поддерживая жизнь в себе, возвращать к жизни мёртвые клетки. В единстве друг с другом. В единстве с Богом. Ощущение единства не оставляет равнодушным никого. Желание "быть одно", пусть может и на подсознательном уровне, притягивает людей. И сотни голосов сливаются в единый хор прославления. Такого чистого, такого искреннего. Прославления с благодарностью и просьбой о прощении, просьбой о том, чтобы Он через нас, укрепляя наше доверие, осуществлял свой грандиозный план.

Фестиваль дал не просто сильный заряд энергии, он дал возможность ощутить, пусть и крохотную, но часть той невообразимой атмосферы, что существует прямо сейчас там, возле Его престола. И это ощущение, живя в нас, даёт нам возможность меняться.

Заключением фестиваля стала песня-молитва за город Барановичи, за всех жителей и добродетелей фестиваля, за процветание города и народа, за единство. Епископ Антоний Демьянко благословил каждого присутствующего и поблагодарил за совместную молитву.

#DDN20 прошёл, оставив след в сердце каждого участника и гостя. Организаторы высказывают благодарность каждому, кто был задействован в организации и проведении фестиваля: местному горисполкому, спонсорам, добродетелям, прихожанам, волонтёрам, участникам и гостям.

До встречи, "Достучаться до небес" 2021!



# Як (не) трэба спавядацца. Парады езуіта

**Часам прасцей растлумачыць з'яву, сказаўшы, што гэта не так. Айцец-езуіт Роберт Вавер на сайце Варшаўскага санктуарыя Маці Божай Вострабрамскай тлумачыць, што з'яўляецца споведдзю.**

### Не бойся, дзіця

Сакрамант пакаяння і прымірэння – гэта сустрэча з любячым Богам, які дарue нам нашы грахі. Гэта аздараўленне душы і прыгода станаўлення ў праўдзе, якая вызваляе нас і вучыць пакоры і любові. Не мае значэння, наколькі дрэннымі мы з'яўляемся, у чым хочам прызнацца, ці як даўно не былі ў споведзі.

Ідучы да канфесіяналу, мы не павінны баяцца, што Бог не даруе нам самых цяжкіх грахоў, што на гэта не заслужылі. Наш Айцец хоча, каб мы спачатку справядліва асудзілі нашы дзеянні, думкі і занядбанні перад Яго абліччам, а потым прынялі Яго міласэрнае прабачэнне. Споведзь не для таго, каб Бог ведаў ад нас, што дрэннага мы зрабілі. Ён ужо гэта ведае. Падчас споведзі мы можам сказаць, што нам шкада і дадведацца, што, нягледзячы на ўсе нашы грахі, Ён хоча быць з намі.

### У прынцыпе, усё ОК

Мы не спавядаемся з праблем, якія ствараюць для нас іншыя людзі, або з чужых грахоў – за выключэннем таго, калі мы падштурхнулі да іх. Таксама не спавядаемся са спакус і нячыстых думак, уяўленняў, успамінаў, эмоцый – калі толькі мы не здаліся ім ці не спакусіліся. Гэтак жа і з рассейваннем увагі на малітве і на Імшы.

Сумненні ў веры таксама не грэх, калі мы не занядбоўваем пазнаванне веры розумам. Мы не спавядаемся з таго, што нам прыснілася.

У споведзі мы не кажам, што робім дабро і што мы, як правіла, добрыя людзі. Калі ў нас складаная жыццёвая сітуацыя – мы не звяртаемся за кансультацыяй і прафесійнай падтрымкай да духоўніка. У гэтым лепш дапамогуць людзі, якія нас лепш ведаюць або з'яўляюцца спецыялістамі ў гэтай галіне, напрыклад, сям'я, знаёмыя, лекары, тэрапеўты.

### І, нарэшце

Каб паспавядацца, патрэбны святар. Аднак не ён з'яўляецца асобай на першым плане. Натуральны сорам за нашы грахі і слабасці не павінен выклікаць страху. Айцец Роберт раіць практыкаваць сорам як частку пакуты за нашы грахі.

Пазбягайце абагульненняў, напрыклад, "зграшыў супраць запаведзяў 1, 4 і 9" або "прызнаюся ў граху ляноты і гневу" або "прапусціў святую Імшу". Грэх трэба называць па імені. Апішыце канкрэтныя сітуацыі, у якіх зграшылі – у прыватнасці, цяжкі грэх. Тады спаведнік будзе добра ведаць, пра што гаворыцца, і зможа даць адпаведныя парады. Аднак не спавядайцеся скрупулёзна, пазбягайце празмерна падрабязных апісанняў.

На споведзі не спрабуйце "схаваць" самы ганебны грэх цьмяным словам або так, каб не звярнуць на яго ўвагі. Зусім наадварот! Варта адзначыць, "гэта мая самая вялікая праблема" ці "мне больш за ўсё сорамна за гэты грэх".

Мы таксама не кажам: "можа, я быў нецярплівы", "можа, каго пакрыўдзіў". Гэта патрабуе лепшай падрыхтоўкі да споведзі і больш глыбокага вывучэння сумлення. Або я быў нецярплівы ў пэўнай сітуацыі, або не называю гэты грэх па імені "на ўсялякі выпадак".

Нават калі адзін грэх наносіць шкоду нашаму сумленню, нягледзячы ні на што, мы робім рахунак сумлення з усяго духоўнага жыцця. Адзін грэх, нават вельмі сур'ёзны, гэта не ўсё наша жыццё.

Рахунак сумлення трэба рабіць перад споведдзю, а не падчас яе. Аднак не бойцеся спытаць у духоўнага айца тое, што вам незразумела. Не будзем недаацэньваць сумневы.

### Грахі "неадпушчаныя"?

Давайце не будзем прызнавацца ў "грахах пакаленняў", бо адзіны грэх, які перадаецца з пакалення ў пакаленне, – гэта першародны, які адпускаецца падчас хросту. Таксама не трэба спавядацца ў грахах, якія ўжо вызнавалі на споведзі раней і былі нам адпушчаны.

"Святая споведзь – гэта не ачышчэнне ад негатыўных успамінаў, не гумка для сцірання напісанага алоўкам. Наступствы грахоў, якія мы вызналі, могуць працягвацца ўсё жыццё. Трэба пакаяцца, а не спавядацца з іх зноў", – раіць езуіт.

Мы не спавядаемся з блюзнерства супраць Духа Святога, "якое ніколі не будзе даравана". Гэта грэх вечнага адмаўлення ад Божай любові, які ўчынілі паўшыя анёлы. Толькі істоты, якія маюць вольную волю і існуюць па-за часам, могуць вечна адмовіцца ў служэнні Богу, а чалавек не ў стане зрабіць выбар на цэлую вечнасць. Касцёл атрымаў уладу даравацъ усе грахі, здзейсненыя чалавекам.

*Пераклад*
***Марыны Сінкевіч***
*з сайта Aleteia*



# Дзеці ў касцёле

## Парады святара

**Цікавае казанне святара. З увагай прыслухоўваешся да слоў і іх сэнсу. Раптам дзіця на лаўцы перад табой пачынае гучна размаўляць, нават крычаць. Што рабіць? Як дзейнічаць?**

■ **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS**, *waladarka.by*

Шмат святароў і свецкіх людзей наракаюць, што дзеці перашкаджаюць ім удзельнічаць у літургіі. Бацькі таксама адчуваюць збянтэжанасць, калі не ў стане адразу супакоіць дзіця. Пачынаюць адчуваць напружанне і ў рэшце рэшт вырашаюць выйсці са святыні разам з дзіцём.

З аднаго боку, тады настае "святы супакой", усе могуць вярнуцца да асабістага перажывання літургіі, аднак, з іншага боку, бацькі ўжо не могуць прымаць удзел у святой Імшы. Дзіця вучыцца таму, што маленькага эмацыянальнага шантажу (гнеў, стуканнне нагамі, крык) дастаткова, каб хутка выйсці з касцёла, дзе нудна і нічога незразумела. У гэтыя хвіліны незвычайна аб'яўляецца сэнс Эўхарыстыі, у якой Бог сваёй моцай пераменяе ўсіх у адно цела ў Хрысце. Эўхарыстыя непарыўна яднае нас паміж сабой: няма ўжо толькі мяне, але мы, бо ўсе з'яднаныя паміж сабою ў Хрысце.

Калі дзіця парушае тваю ўвагу ў часе літургіі слова, памаліся за яго, а перадусім за ягоных бацькоў, якія, напэўна, аддаюць усіх сябе для сваіх дзяцей. Ахвяруй сваю малітву і сваю цярплівасць, каб яшчэ больш з'яднацца з ахвярай Хрыста. Супакой у сэрцы, з'яднанне з Хрыстом на малітве народзіцца тады, калі мы больш палюбім, а не тады, калі павыводзім усіх дзяцей з касцёла, каб заняцца Богам. Ці толькі тады, калі мы так зробім, дакладна будзем мець лепшае з'яднанне з Богам або, можа, толькі з нашым эгаістычным уяўленнем пра Бога? Вядома, справа не ў прыхоўванні частых памылак бацькоў у рэлігійным выхаванні дзяцей. Не хачу таксама сказаць, што кожная сітуацыя, калі трэба вывесці дзіця з касцёла, памылковая. Аднязначна, калі доўгі час дзіця нельга супакоіць, тады можна яго вывесці на хвіліну з касцёла, бо фактычна гучныя паводзіны дзіцяці могуць абцяжарыць іншым перажыванне святой Імшы. Бацькі таксама мусяць мець на ўвазе любоў да ўсёй супольнасці. Павінна тут быць толькі звычайнае здаровае пачуццё.

Адначасова мы павінны памятаць, што ў нядобрых паводзінах дзіцяці ў касцёле вінаватыя ў большай ступені самі бацькі. З пункту гледжання выхавання да ўдзелу ў літургіі не найлепшай ідэяй з'яўляецца браць дзяцей у касцёл цацкі і дазваляць, каб яны бавіліся з імі падчас вельмі важных хвілін у літургіі.

Часта ў парафіях з'яўляюцца так званыя капліцкі, пакоі для дзяцей, дзе некалькі апекуноў пільнуюць малых, і яны тым самым не перашкаджаюць іншым. Гэта добрая ідэя, калі ў гэтым месцы ёсць акустычная сістэма і чуваць літургію, бачны алтар, вернікі. Але вельмі дрэнна, калі гэта месца цалкам ізалявана ад касцёла і больш нагадвае забаўляльны пакой, дзе дзеці могуць рабіць, што пажадаюць. Маюць нават шафы з цацкамі (такія месцы ёсць у касцёлах, сам асабіста бачыў).

Старэйшым дзецям нельга дазваляць есці ў касцёле. Згода на тое, каб з'есці цукерку ці пячэнне, вучыць таму, што касцёл цалкам звычайнае месца (і толькі такім чынам можна перадаць дзіцяці праўду, што касцёл – гэта надзвычайнае месца, дзе ёсць свае правілы), і часта самі бацькі, дазваляючы есці дзецям, перашкаджаюць іншым у рэлігійным выхаванні іх нашчадкаў. Бо калі дзіця бачыць, што яго сябар есць, то і само жадае рабіць тое ж самае.

У працэсе выхавання ёсць месца на навучанне дзіцяці стрыманасці, адрачэнню і адмаўленню ад чаго-небудзь. Не кожнае жаданне малога трэба здзяйсняць. У жыцці мы адракаемся не толькі ад дрэнных рэчаў, але часам маем патрэбу таксама адмовіцца і ад добрага. Такім чынам, пачынаецца першая катэхеза, якая датычыць эўхарыстычнага посту.

Варта памятаць, што некаторым паводзінам трэба вучыцца не толькі ў касцёле, але і ў штодзённым жыцці, таму што будзе гэта патрэбнае ў далейшым. Ад пачатку вельмі важна вучыць дзіця ўважлівасці, магчымасці сканцэнтравацца на адной рэчы на працяглы час (на першым узроўні можна вучыцца гэтаму нават падчас забавы, каб дзіця магло гуляць з адной цацкай, а не змяняць іх праз кожныя пяць хвілін). Гэтая здольнасць будзе пазней патрэбная малому ў школе, дзе трэба быць уважлівым увесь урок, а гадзіна ўроку – гэты прыкладна той час, як і на літургіі. Вядома, маленькім дзецям вельмі цяжка быць уважлівымі на працягу ўсёй святой Імшы, але варта іх матываваць, заахвочваць да таго, каб цяпер, падчас Евангелля ці перамянення яны асаблівым чынам спрабавалі паслухаць святара, звярнулі ўвагу на алтар, на гостыю ці келіх, якія святар узносіць над сабой. Аднак каб штосьці сказаць дзіцяці, яго трэба трымаць блізка каля сябе.

Адны з сужэнцаў успаміналі, што вельмі добра, калі малое час ад часу трымаюць на руках. Пры бацьках дзіця адчувае сябе больш бяспечна, супакойваецца, часта пытаецца, што робіць святар. Маючы дзіця блізка, можна адказаць на пытанне, супакоіць, прытуліць. Трэба лічыцца і з тым, што калі бацькі маюць некалькіх дзяцей, то не змогуць іх узяць усіх на рукі. Але ёсць заўсёды магчымасць узяць на рукі наймалодшага.

У добрым перажыванні літургіі дапамагае таксама размова пра правілы паводзін перад тым, як увайсці ў святыню. Ужо ў суботу падчас вячэрняй малітвы варта нагадаць дзіцяці пра паводзіны і памаліцца пра добры ўдзел у святой Імшы. Запланаваць і нагадаць дзіцяці гадзіну, у якую сям'я пойдзе ў касцёл. У нядзелю добра было б мець падрыхтаванае прыгожае адзенне, прыйсці ў касцёл не спазніўшыся (згаджуся з бацькамі, што гэта нялёгкая справа – усё паспець зрабіць і пунктуальна, без перашкодаў прыйсці), каб яшчэ суцішыць дзіця, дапамагчы прывітацца з Богам, прысутным у Найсвяцейшым Сакраманце, некалькімі словамі ўвесці малога ў атмасферу святой Імшы.

Каталіцкі ВЕСНІК №2 (107) люты 2020 г.

# Сведчанне былой сатаністкі, якая стала манахіняй





**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце! Завуць мяне Магдалена. Я хачу падзяліцца з вамі гісторыяй майго жыцця, хачу расказаць вам пра Божую Міласэрнасць, пра Любоў, якая мяне знайшла і вызваліла з моцы граху і няволі зла.**

Нарадзілася я ў невялічкім гарадку ў цэнтральнай Польшчы. Людзі называюць такіх, як я, выпадковымі дзецьмі, гэта значыць, што бацькі зусім мяне не планавалі і не хацелі. І такім “выпадковым” дзіцём я сябе адчувала ўсё жыццё. Маё дзяцінства было залежнае ад алкагалізму бацькі і абыякавасці маці. Так я расла з пачуццём вялікай крыўды, адкінутасці і прыніжэння.

З дзяцінства памятаю пастаянныя звады, авантуры, бойкі. Часта трэба было ўцякаць з дому сярод ночы. Такім было маё маленства – поўнае страху, сумневаў. Па вечарах я малілася да Бога, каб мой тата прыйшоў дахаты цвярозы альбо хоць бы мяне не біў, але маё жаданне спаўнялася вельмі рэдка.

У маёй сям'і была традыцыйная вера, якая перадавалася з пакалення ў пакаленне, але гэтая вера не мела нічога супольнага з рэчаіснасцю, з жыццём. Хутка я адышла ад Касцёла, так і не спазнаўшы на практыцы, што гэта такое. З часам пачала знаходзіць сэнс майго жыцця на вуліцы. Той любові, якой я не атрымала дома, пачала шукаць у іншых месцах. Блукаючы цэлымі днямі па вуліцы, я часта станавілася ахвярай сэксуальных адносінаў. Вельмі хутка я навучылася піць, курыць, ужываць наркотыкі, мацюкацца. Мае знаёмыя навучылі мяне, як даваць сабе рады на вуліцы: як красці, займацца рэкетам, быць цвёрдай і ніколі не саступаць. Даволі хутка я здабыла аўтарытэт у групе, бо заўсёды ведала, дзе ўзяць грошы. Доўгія гады я праводзіла двайное жыццё. Дома я была спакойнай, ціхай дачушкай, а на вуліцы і ў школе да мяне баяліся падыходзіць.

Але, шчыра кажучы, я не хацела так жыць. Спрабавала нават пакінуць сваё жыццё на вуліцы, але ўвесь час мне казалі, што я злая і нічога добрага з мяне не будзе. Адзін грэх клікаў за сабой наступныя. Пасля некалькі месяцаў маёй працы над “нармальным” жыццём я вярталася да старога. Хацелася жыць інакш, але я не магла. Увесь час на мяне ўплывала асяроддзе, а ў сэрцы я ўсё ж марыла мець нармальную сям'ю, дом, пачаць вучыцца. Падлеткам я не змагла супрацьстаяць той навале зла, якая давяла мяне да кропкі.

Я ахвяравала сваё жыццё сатане, аддала яму сваю душу ўзамен за зямное шчасце. Было мне тады 16 гадоў, і дагавор мой з д'яблам бачыўся мне як чарговы эксперымент. Я зусім не ўсведамляла, што зрабіла, і праз некалькі месяцаў пра ўсё забылася. Цяпер жа, калі гляджу на тыя падзеі з перспектывы часу, бачу, што сатана, аднак, пра мяне не забыўся. Ён распачаў павольны працэс майго знявolення. Найперш узнікла цікавасць да магіі, акультызму, парапсіхалогіі, варажбы. Са мной пачало дзеецца штосьці нядобрае: я магла чытаць чужыя думкі, прадказваць будучыню, увесь час расла ўва мне агрэсія да святарства і Касцёла. І пры гэтым усім нічога не перашкаджала мне час ад часу патататцку прымаць Святую Камунію, будучы ў стане цяжкіх грахоў. Усё жыццё сталася адным вялікім ашуканствам. Урэшце пачалі з'яўляцца думкі пра самагубства. Жыццё страціла для мяне ўсялякі сэнс, пачалася дэпрэсія. Адзіным паратункам здавалася смерць.

Былі моманты, калі вельмі хацелася вярнуцца да Бога. Я глядзела на маіх аднакласнікаў з ліцэя і зайздросціла: яны такія шчаслівыя, бо маюць да каго пайсці са сваімі праблемамі. Сябе ж я адчувала асуджанай. Сатана пераконваў мяне, што я не змагу ўжо вярнуцца, што трэба і надалей ісці тым шляхам, які выбрала. Часам перад сном мне хацелася зрабіць знак крыжа, але не магла. Часам уздыхала: “Божа, я хачу вярнуцца, але не магу ...” Гэта была мая адзіная малітва. А потым зноў прыходзіла спроба самагубства.

Заканчэнне школы не давала мне ніякіх планаў на будучыню. Жыццё страціла ўсялякі сэнс, хаця ніхто гэтага не бачыў. Знешне я выглядала, як і ўсе мае аднагодкі. Ніхто нават і не падазраваў, што да таго, як выйсці з дому, я штодня выпівала некалькі шклянак алкаголю. А знешне ўсё нібыта было звычайна: была надзея атрымаць вышэйшую адукацыю, я сябравала нават з хлопцам, які мяне кахаў, але ў сэрцы я і надалей думала пра смерць.

Аднак Бог меў адносна мяне свае планы. Ён паставіў на маім шляху сяброўку, якая аднаго вечара расказала мне пра Божую Любоў. Памятаю, як гэтая размова цягнулася некалькі гадзінаў: паміж мной, баявой атэісткай, і Касяй, вернігай, каталічкай. Тады мне здавалася, што я чую пра Езуса ўпершыню. Яе словы сапраўды траплялі да майго сэрца. Калі я вярнулася дахаты, у галаве ўсё гучалі словы Касі: “Езус любіць цябе! Ён цябе шукае і не перастае прабіваць да твайго сэрца”. Гэтыя простыя словы змянілі маё жыццё, бо далі надзею, якая казала: “Гэта сатана пераконвае цябе, што нельга вярнуцца, што Бог не прабачае, а Езус чакае цябе”.

Мае дарагія! Гэта былі словы маёй свабоды, словы пра збаўленне, пра Божую Любоў канкрэтна ў маім жыцці. Сатаністам цяжка вярнуцца не таму, што пра іх забыўся Бог, а таму, што яны самі спальваюць усе масты. Пасля той размовы я не магла заснуць, не ведала, што з сабой зрабіць. Увесь час чула словы: “Ты можаш вярнуцца. Маліся”. А мне не верылася. Як маліцца? Я ж столькі гадоў не малілася! Але ўнутраны голас не пакідаў мяне. Я паднялася, хоць была ўжо позняя ноч, укленчыла і пачала маліцца. Гэта была мая першая шчырая і свядомая малітва.

Мае дарагія! Я нават не ўмела маліцца “Ойча наш”. Але ў адным я перакананая: Бог прыйшоў да мяне тае ночы. Гэта Ён усё запланаваў, Ён выйшаў мне насустрач. Цяпер я ведаю, што ў тую ноч я атрымала дар новага жыцця. Можна сказаць, я амаль фізічна адчувала, як спадаюць з мяне кайданы зла, а цела напаўняе Дух Святы. Усё гэта мела працяг таксама ў наступныя дні. Знаёмыя пыталіся, што са мною сталася. Ім здавалася, што нават твар у мяне змяніўся. А я магла адказаць толькі адно: “Езус жыве!” Я перастала піць, ужываць наркотыкі. Скончылася дэпрэсія. Нават голас мой змяніўся. Бог пасылаў мне людзей, якія дапамаглі паціху вярнуцца ў Касцёл.

Праз некалькі дзён пасля маёй малітвы, калі я аддала сваё жыццё Езусу, я павыкідвала ўсё, што звязана з магіяй. Сатана, што праўда, і надалей змагаўся за маю душу. Але з Божай дапамогай я магла супрацьстаяць злу, на гэта патрэбны быў час. Немагчыма ўбачыць, чым ёсць грэх, пакуль чалавек сам не пачне з ім змагацца. Вялікай дапамогай для мяне тады была малітва на ружанцы. Змяніліся таксама мае адносіны з сям'ёй. Праз нейкі час я змагла прабачыць маім блізкім. Бог дазволіў мне быць сведкам навяртання майго бацькі.

Бог вызваліў мяне ад зла не адразу. Магу сказаць, што шэсць гадоў крок за крокам Бог мяне аздараўляў. Я веру моцна, што іду Яго шляхам і што Ён мяне вядзе. Спачатку я скончыла ўніверсітэт, а цяпер з'яўляюся манахіняй місійнага ордэна. Адзінага, чаго я прагну, гэта каб дар новага жыцця, які я атрымала ад Бога, не быў змарнаваны, але каб я магла таксама ім падзяліцца з іншымі.

На заканчэнне хачу вам яшчэ раз сказаць, што для Бога няма рэчаў немагчымых. Гэта Ён, Валадар усяго свету, і нішто не можа вырваць цябе з Яго рук. Ён больш за ўсялякі грэх ці безнадзейныя сітуацыі.

Жадаю вам усяго добрага!

***Ваша сястра Магдалена***

*https://www.viartannie.org/*





# Piligrymka.by запрашае ў пілігрымкі і духоўныя падарожжы ў 2020 годзе

**Piligrymka.by прапануе правесці гэты год у незабыўных духоўных падарожжах з малітвай і прыемнай кампаніяй. У нас заўсёды прысутнічаюць малітва і размовы на жыццёвыя тэмы, якімі кіруе святар!**

Пачынаем з пілігрымкі ў Банэ (Бельгія), у нацыянальны Марыйны санктуарый. Наведваем Ліхень, Берлін, Брусэль, Гент, Бруге, Амстэрдам, парк кветак у Кёкенхофе.

**Час: 17 – 25 красавіка 2020 г.**

Пілігрымка ў Рым і Ватыкан з наведваннем Чэнстаховы, Вены, Венецыі і Браціславы.

**Час: 30 красавіка – 8 мая 2020 г.**

Агульнанацыянальная пілігрымка ў Рым з нагоды 100-годдзя нараджэння св. Яна Паўла ІІ са святой Імшой з Папам Францішкам у Ватыкане.

**Час: 13 – 22 мая 2020 г.**

Пілігрымка ў Грэцыю з наведваннем Вены, Рыма, Бары, Афін, Метэораў, Салонікаў, Скоп'я, Бялграда, Будапешта.

**Час: 12 – 25 чэрвеня 2020 г.**

Пілігрымкі на Мальту, у Францыю (Люрд), Швецыю, Боснію і Герцагавіну (Міжгор'е), Чэхію і Славакію (спадчына св. Кірыла і Мяфодзія) і многія іншыя.

Пілігрымка ў Ізраіль з насычанымі экскурсіямі і адпачынкам на Мёртвым, Галілейскім і Міжземным морах!

**Час: 26 красавіка – 3 мая 2020 г. Вылет з Мінска.**

Пілігрымка ў Фаціму да Маці Божай з наведваннем Ліхеня, Кёльна, Парыжа, Люрда, Сант'яга дэ Кампастэла, Фацімы, Лісабона, Барселоны, Падуі і Чэнстаховы.

**Час: 28 верасня – 13 кастрычніка 2020 г.**

Унікальная пілігрымка ў Мексіку да Маці Божай Гвадэлупскай – святыні ўсёй Лацінскай Амерыкі. Мы пазнаёмімся з культурнай спадчынай Мексікі дахрысціянскага перыяду і распаўсюджваннем хрысціянства ў Новым Свеце. Наведаем самую вялікую базыліку дзвюх Амерык у Мехіка, санктуарый у Гвадэлупе, Пуэбла (улюбёны горад Яна Паўла ІІ), піраміды ацтэкаў, Тэатыўакан, Сачымілька, Керэтара, Таска, касцёл Маці Божай Тананцінтла. Пасля насычанай праграмы запланаваны трохдзённы адпачынак у Акапулька на Ціхім акіяне.

***Час: 22 лістапада – 4 снежня 2020 г.***

Каб узяць удзел у пілігрымцы, патэлефануйце нам: **Velcom (29) 6020098, МТС (29) 7080078**.

Усе праграмы пілігрымак – на сайце ***www.piligrymka.by***




**ДАВЕДКА ПРА АРГАНІЗАТАРАЎ**

Рыма-каталіцкая парафія св. Язафата Кунцэвіча ў г.п. Расоны з'яўляецца афіцыйным арганізатарам паломніцкіх аўтобусных тураў па святых месцах Еўропы і авіятураў у Грузію, на Мальту, у Ізраіль і Мексіку. Каардынатар пілігрымак – кс. Вячаслаў Барок. Арганізатары пілігрымак не маюць камерцыйных мэтаў.

# Крыжовы шлях Збаўцы



**Вялікі Пост – час духоўнага абнаўлення. Прапануем вам акунуцца ў апошнія падзеі з зямнога жыцця Езуса Хрыста і прайсці разам з Ім Яго Крыжовы шлях.**

**Праверце сябе, ці добра вы ведаеце Крыжовы шлях Збаўцы, прайшоўшы новы тэст "Каталіцкага Весніка".**

**1** Якія падзеі з жыцця Хрыста папярэднічалі апошняй вячэры?



**А.** Уваскрашэнне Лазара
**Б.** Цуд у Кане Галілейскай
**В.** Урачысты ўваход Езуса Хрыста ў Езузалем

**2** У які дзень Езус спажыў разам з вучнямі апошнюю вячэру?



**А.** Чацвер
**Б.** Пятніца
**В.** Субота

**3** Хто вынес прысуд Езусу?



**А.** Цар Ірад
**Б.** Понцій Пілат
**В.** Цэзар Аўгуст

**4** Што падчас бічавання жаўнеры ўсклалі на галаву Езуса?



**А.** Тыяру
**Б.** Вянок з ружаў
**В.** Вянок з церняў

**5** Які жэст зрабіў Понцій Пілат, каб паказаць, што не хоча быць вінаваты ў крыві праведнага чалавека?



**А.** Абмыў рукі
**Б.** Перахрысціўся
**В.** Закрыў рукамі свае вочы

**6** Назва месца, дзе ўкрыжавалі Езуса Хрыста?



**А.** Гефсіманія
**Б.** Галгота
**В.** Герызім

**7** Хто дапамог Езусу несці крыж?



**А.** Ян – улюбёны вучань Хрыста
**Б.** Бараба
**В.** Сымон з Кірэнэі

**8** Што азначалі словы Езуса: "Элі, Элі, лема сабахтані?"



**А.** "Божа Мой, Божа Мой, чаму Ты Мяне пакінуў?"
**Б.** "Божа, Божа мой, ці можна гэта абмінуць?"
**В.** "Ойча, няхай станецца Твая воля..."

**9** Як звалі вучня Езуса, які стаяў пад крыжам?



**А.** Пётр
**Б.** Ян
**В.** Тамаш

**10** Хто пасля смерці Езуса ўзяў Марыю да сябе?



**А.** Ян
**Б.** Пётр
**В.** Тамаш

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 16**

# Игнатианские духовные упражнения в Новогрудке (19-26 июня 2020)



**19 – 26 июня в Новогрудке (Беларусь) отцы-иезуиты в очередной раз проведут Игнатианские реколлекции. Духовные упражнения проходят в молчании, каждый день участники совершают беседу с духовными сопровождающими.**

К участию приглашаются верующие, монашествующие и священники. Для тех, кто будет участвовать в первый раз, предусмотрен более короткий срок духовных упражнений.

**Более подробная информация и запись по телефонам:**

+375 (44) 465-18-78 (Viber)
**с. Виктория Жук MSF**
**E-mail:** jezuity.by@gmail.com

# Віцебскаму “Карытас”


Лекі і калядныя падарункі для анкалагічна хворых дзяцей

**Дарагія сябры! 15 сакавіка 2020 г. – асаблівая дата для Дабрачыннага каталіцкага таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі. Менавіта ў гэты дзень яно адзначае юбілей – дваццаць гадоў існавання!**

У літургічным календары гэта таксама трэці тыдзень Вялікага Посту, дзень, калі ў парафіях Віцебшчыны збіраюцца ахвяраванні на дабрачынную дзейнасць нашай арганізацыі. “Карытас” нясе дапамогу тым людзям, каму яна найбольш патрэбная, нягледзячы на расавую, нацыянальную ці рэлігійную прыналежнасць. Супрацоўнікі і валанцёры ў сваёй дзейнасці рэалізуюць наказ Хрыста любіць адно аднаго і быць міласэрнымі, як наш Бог.

Арганізацыя “Карытас” існуе ва ўсім каталіцкім свеце, але ў кожнай дыяцэзіі яна мае ўласныя адметныя рысы і кірунні дзейнасці, адпаведныя актуальным патрэбам пэўнай супольнасці. Па традыцыі хочацца расказаць чытачам пра праекты і акцыі, якія адбываліся ў “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі на працягу года.

**Цэнтр дзённага знаходжання для людзей з інваліднасцю** дзейнічае пры “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі з 2003 года. Кожны дзень, акрамя выхадных, маладыя людзі з інваліднасцю прыходзяць у цэнтр займацца рукадзеллем, творчасцю, музыкай, працуюць на камп’ютары, гатуюць смачныя стравы ды і проста сустракаюцца за кубачкам гарбаты. Цэнтру рэгулярна дапамагаюць валанцёры, якія таксама арганізоўваюць для наведвальнікаў святочныя імпрэзы. Падобныя асяродкі дзейнічаюць і пры парафіяльных арганізацыях “Карытас” у Мёрах і Глыбокім. На цяперашні момант цэнтры наведвае больш за 60 людзей з інваліднасцю.

**Студыя інклюзіўнага танца “ІМПЭТ”** пры “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі дзейнічае ўжо чацвёрты год. Яна аб’ядноўвае аматараў танца з інваліднасцю і без яе, на інвалідных вазках і на нагах, дзяцей і дарослых, якія танцуюць на роўных. Танцоры пад кіраўніцтвам харэографа Марыны Булатоўскай ахвотна прымаюць удзел у канцэртах, конкурсах і майстар-класах. За апошні год удзельнікі студыі шмат разоў выступалі ў Віцебску, Лепелі, Ушачах. “Карытас” таксама зладзіў інклюзіўны танцавальны фестываль у рамках V Парафіяды Віцебскай дыяцэзіі. У кастрычніку 2019 г. студыя “Імпэт” ужо трэці раз была прадстаўлена на Міжнародным дабрачынным танцавальным фестывалі “Вялікі кубак Inclusive dance” ў Маскве, прычым адразу дзвюма інклюзіўнымі парамі ўзнагароды за артыстызм.

**Праца з пажылымі і хворымі людзьмі.** Дырэктар “Карытас” кс. Андрэй Аніскевіч з’яўляецца рэгулярным госцем на спатканнях для пажылых асоб пры катэдральнай парафіі ў Віцебску. Разам з групай верніц раз на месяц яны адведваюць сяброў у Варонаўскім домеінтэрнаце. Кожны аўторак у капліцы ў Віцебскім абласным анкалагічным шпіталі кс. Андрэй адпраўляе святую Імшу і спавядае хворых.

**Дапамога абяздоленым.** Віцебскі “Карытас” сумесна з еўрапейскім партнёрам з Лінца нясе дапамогу тым, каму яна асабліва патрэбная, у выглядзе прадуктаў харчавання, адзення, абутку, дроваў. Ад пачатку 2020 года на гэта было выдзелена 18 830 бел. руб.

**Дапамога для Віцебскага гарадскога цэнтра часовага (начнога) знаходжання бяздомных асобаў.** “Карытас-Віцебск” рэгулярна закупае прадукты харчавання (крупы, муку, цукар, кансервы, алей, макароны, печыва, гарбату) і сродкі гігіены для людзей без пэўнага месца жыхарства. На Вялікадзень і Божае Нараджэнне яны атрымліваюць ад “Карытас” святочныя падарункі. За апошні год дапамога склала каля 10 000 бел. руб.

**Дапамога дзецям разам з “Карытас-Прага”.** Дзеці са шматдзетных, малазабяспечаных сем’яў і сем’яў, якія выхоўваюць дзяцей з інваліднасцю, з розных раёнаў Віцебскай вобласці два разы на год атрымліваюць фінансавую дапамогу для набыцця адзення, абутку, школьных прыладаў ці для аплаты навучання ад дабрачынцаў “Карытас-Прага”. Для дзяцей таксама арганізоўваюцца святочныя мерапрыемствы. Летам 2019 года група з 50 чалавек падарожнічала ў Чэхію. На сённяшні дзень у праекце прымае ўдзел каля 500 дзяцей і іх сем’яў.

**Дапамога анкалагічна хворым дзецям.** Пачынаючы з 2005 года, “Карытас” набывае імунна-пратэктарныя лекі для дзяцей, якія хварэюць на рак. Для іх таксама арганізуюцца святы на Дзень абароны дзіцяці, уручаюцца падарункі на Божае Нараджэнне. У снежні 2019 года было закуплена лекаў і падарункаў на суму 10 534 бел. руб.

**Інтэграцыйныя святліцы для дзяцей.** У 2019 годзе пры падтрымцы “Карытас-Польшча” і праграмы “Польская дапамога Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча” віцебскі “Карытас” адрамантаваў і адкрыў інтэграцыйныя святліцы для дзяцей пры парафіях Езуса Міласэрнага ў Віцебску, Святой Тройцы ў Глыбокім, Нараджэння НПМ у Браславе. Нагадаем, што першыя такія святліцы былі адкрытыя ў 2018 годзе ў Лепелі і Мёрах. Таксама ўжо трынаццаць гадоў дзейнічае святліца пры парафіі ў Лынтупах, якую падтрымлівае “Карытас” разам з замежнымі партнёрамі: Renovabis і Kindermission. У святліцах адбываюцца заняткі па катэхезе, кулінарыі, творчыя майстэрні. Дзеці і моладзь разам з выхавальнікамі рыхтуюць хатнія заданні, гуляюць, ладзяць святы. Дзякуючы “Карытас-Лінц” сёлета мы закупілі прадукты харчавання для забеспячэння дзейнасці кулінарных гурткоў на суму 10 821 бел. руб. У гэтым навучальным годзе святліцы наведваюць каля 260 дзяцей.

**Дапамога дзецям з каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі.** “Карытас-Віцебск” рэалізуе наступныя праекты для дзяцей:

- Арганізацыя летняга адпачынку “Канікулы з Богам”. Сёлета 131 асоба прыняла ўдзел у летніку ў Загужу Слёнскім (“Карытас-Свідніца”).
- Салодкія падарункі на свята Божага Нараджэння і для ўдзельнікаў Дыяцэзіяльнага конкурсу батлеек. З нагоды апошніх святаў было закуплена падарункаў на суму 14 000 бел. руб.
- На 2019/2020 навучальны год у межах праекту “Пазнаём сваю веру” парафіі Віцебшчыны атрымалі падручнікі для катэхезы на суму 7 690 бел. руб.
- Парафіі Віцебскай дыяцэзіі таксама былі забяспечаныя канцылярскімі прыладамі для заняткаў па рэлігіі на суму 2 300 бел. руб.
- Фінансавы ўнёсак і дапамога валанцёраў падчас арганізацыі V Парафіяды дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі.

**Дыяцэзіяльны конкурс на веданне Святога Пісання** упершыню адбыўся ў нашай дыяцэзіі ў 2019 годзе. У ім прыняло ўдзел 220 дзяцей з 26 парафій. Амаль усю арганізацыю ўзяў на сябе “Карытас-Віцебск”: падрыхтавана каля 300 пытанняў, уручана 65 падарункаў для фіналістаў і катэхетаў, выкарыстана праца 20 валанцёраў. Ужо хутка распачынаецца II Дыяцэзіяльны конкурс 2020 г. на веданне Кнігі Зыходу.

**Кансультацыі каталіцкага псіхолага.** Па ініцыятыве віцебскага “Карытас” псіхолаг Марына Ткач чатыры разы на месяц праводзіць бясплатныя сустрэчы і кансультацыі па сямейных пытаннях у сядзібе “Карытас”, а таксама ў розных парафіях нашай дыяцэзіі.


Дапамога для Лепельскага ТЦСАН


Рэпетыцыя танца, Студыя Імпэт


Дзеці падчас летніку ў Свідніцы (Польшча)

# – 20 гадоў!

**Дапамога дзяржаўным сацыяльным установам Віцебскай вобласці.** У апошні час "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі рэалізаваў наступныя праекты:

- Адкрыццё сацыяльнай цырульні ў в. Заронава (ТЦСАН Віцебскага раёна).
- Набыццё мэблі для дзіцячага аддзялення Віцебскай абласной клінічнай псіхіятрычнай бальніцы (2644 бел. руб.)
- Набыццё цяпліцы і гаспадарчага інвентару для Максімаўскага дома-інтэрната ў в. Бычыха Гарадоцкага раёна (4614 бел. руб.)
- Набыццё абсталявання для кухні (5841 бел. руб.) для псіхіятрычнай бальніцы ў Слабодцы Браслаўскага раёна.
- Набыццё будаўнічых матэрыялаў для рамонту ў Аддзяленні дзённага знаходжання інвалідаў Першамайскага раёна г. Віцебска на суму 500 бел. руб.
- Прадуктовая дапамога для наведвальнікаў Аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў Лепельскага раёна на суму 1122,17 бел. руб.

Акрамя галоўнай сядзібы "Карытас" у Віцебску, пры васьмі парафіях Віцебскай дыяцэзіі існуюць **парафіяльныя арганізацыі** "Карытас": Святой Тройцы ў Глыбокім, Св. Андрэя ў Лынтупах, Св. Казіміра ў Лепелі, Перамянення Пана ў Чашніках, Сэрца Марыі ў Оршы, Унебаўшэсця НПМ у Мёрах, Нараджэння Маці Божай у Браславе, Езуса Міласэрнага ў Паставах.

У 2019 г. парафіяльны "Карытас" у Глыбокім чарговы раз праводзіў фестываль **"Мы разам!"**, які збірае маладых людзей з інваліднасцю з усёй Віцебшчыны.

**Валанцёрскі рух "Карытас-Віцебск".** Дабрачынная праца не была б магчымая без валанцёраў. Гэта людзі рознага ўзросту, прафесіі і веравызнання, якія ахвяруюць свой час, здольнасці і дадзены момант у Віцебску ёсць трыццаць пастаянных валанцёраў "Карытас" (у тым ліку адзін доўгатэрміновы замежны валанцёр), якія:

- наведваюць дзетак у Віцебскім дзіцячым доме;
- у дзіцячым аддзяленні Віцебскай абласной псіхіятрычнай бальніцы;
- у школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннем слыху;
- апякуюцца дзецьмі падчас летнікаў;
- праводзяць дабрачынныя акцыі сярод жыхароў горада;
- дапамагаюць у цэнтры для людзей з інваліднасцю, у інтэграцыйнай святліцы, у офісе "Карытас".

Валанцёры дзейнічаюць таксама і пры парафіяльных арганізацыях "Карытас", працуючы з дзецьмі, людзьмі з інваліднасцю, несучы дапамогу тым, каму яна патрэбная, на тэрыторыі парафіі. Мы таксама рады студэнтам, якія прымаюць удзел у разавых дабрачынных акцыях і інклюзіўных танцах. Адмыслова для валанцёраў арганізуюцца трэнінгі, семінары, паездкі.

"Карытас" Віцебскай дыяцэзіі шчыра дзякуе святарам, кансэкраваным асобам і ўсім вернікам, якія сваімі ахвяраваннямі і малітвамі падтрымліваюць нашу дабрачынную дзейнасць ужо на працягу дваццаці гадоў! Запрашаем сачыць за нашымі навінамі ў сацыяльных сетках:

Instagram: #caritasvitebsk
У Кантакце:
*https://vk.com/caritas.vitebsk*
а таксама на сайце
*caritas-vitebsk.by*

**Нашы каардынаты:**
вул. Чкалава 52 к. 1, п/с 6, г. Віцебск 210041, тэл. +375 212 618822, +375 29 8369993, e-mail: *caritas.vitebsk@mail.ru*


Часовы жыхар Цэнтра начнога знаходжання для бяздомных асобаў атрымаў набор прадуктаў


Інтэграцыйная святліца Карытас у Браславе


Дзеці на вандроўцы ў гарах (Чэхія)


Заняткі цэнтра для людзей з інваліднасцю ў Мёрах

# Поможем все вместе!!!



**Даша Шепетовская** *(г. Новополоцк)* родилась 15 августа 2019 года на 31 неделе, (весом 1 440 граммов)

В декабре 2019 года, спустя 4,5 месяца ей поставили страшный диагноз **СПИНАЛЬНАЯ МЫШЕЧНАЯ АТРОФИЯ (SMA) 1-го типа.** Это редкое генетическое и смертельное заболевание, в результате которого погибают моторные нейроны спинного мозга и развивается мышечная атрофия, блокируется подача достаточного количества белка для нормального развития мышц.

СМА затрагивает способность ползать и ходить, двигать руками, головой и шеей, а также дышать и глотать.

Детям с таким диагнозом врачи не дают никаких надежд, большинство (80%) не доживают до двух лет.

**Сумма сбора на лекарство Zolgensma 2,5 млн $**

Помочь Дашеньке вы можете любым удобным для вас способом⬇

ПОМОГАТЬ ЛЕГКО для помощи МОЖНО ПОЛОЖИТЬ ДЕНЬГИ НА ТЕЛЕФОН

**Пополнить баланс МТС**
+375(29)848-91-33

**Если Вы можете мне помочь за пределами Республики Беларусь:**
https://www.ding.com/ru. Пополнение баланса из любой точки мира
МТС +375(29)848-91-33
**PayPal** ***info@surymta.com***

**Western Union**: на имя **Halina Shapiatouskaya**, Беларусь, Новополоцк
Телефон для связи с мамой Дарьи +375292961478

**Пополнить карту Беларусбанк**
6711770013153635 срок действия 09/22
ALIAKSANDR SHAPIATOUSKI
https://paysend.com/ru
(На имя отца, Шепетовского Александра Сергеевича)

**Благотворительные счета** открыты в филиале 216 – г. Полоцк, ул. Ф. Скорины, 4;
УНП 300230580; БИК AKBBBY21216:
отделении 216/144

**белорусские рубли** – на благотворительный счёт BY89AKBB31340000081232320144
**доллары США** – на благотворительный счёт BY44AKBB31340000081262320144
**евро** – благотворительный счёт BY14AKBB31340000081282320144
**российские рубли** – на благотворительный счёт BY29AKBB31340000081272320144
**Реквизиты благотворительно счёта**
***https://belarusbank.by/ru/33139/33142/30394/blagotvoritelnost/5579***

**Спасибо всем за вашу помощь!**

Так же есть группа в ВКонтакте, Одноклассниках, Facebook, Instagram, Telegram.

# Каляндар на сакавік

**4 сакавіка – успамін святога Казіміра.**



Святы Казімір быў другім з шасці сыноў польскага караля Казіміра Ягелончыка. Ён нарадзіўся 3 кастрычніка 1458 г. у каралеўскім замку ў Кракаве. У 1476 г. яго першым выхаваўцам і настаўнікам стаў знакаміты польскі гісторык і хранікёр Ян Длугаш. Бацькі св. Казіміра былі вельмі набожнымі людзьмі. Казімір рана пачаў удзельнічаць у палітычным жыцці, але разам з тым вылучаўся надзвычайнай пабожнасцю. Ён штодзённа ўдзельнічаў у святой Імшы, шмат маліўся, здзяйсняў учынкі міласэрнасці. Святы памёр праз сухоты 4 сакавіка 1484 г. ва ўзросце 26 гадоў.

Іканаграфія найчасцей прадстаўляе св. Казіміра ў княжацкім адзенні з лілеяй у руках або як ён кленчыць уначы перад дзвярыма катэдры, каб прыгадаць яго захапленне і пашану да Найсвяцейшага Сакраманту.

У 1602 г. Папа Клімент VIII кананізаваў яго, а ў 1950 г. Папа Пій XII абвясціў яго апекуном літоўскай моладзі. У 1993 г. Ян Павел II сваёй булай устанавіў св. Казіміра адным з заступнікаў Гродзенскай дыяцэзіі. У Вільні, у катэдральным касцёле, знаходзяцца яго рэліквіі.

**7 сакавіка – успамін св. Пэрпэтуі і Фэліцыты, мучаніц.**



Пэрпэтуя і Фэліцыта жылі ў II – III стст. на тэрыторыі Паўночнай Афрыкі (сучасны Туніс). Яны сталі мучаніцамі, якія прынялі смерць за веру ў Хрыста ў Карфагене ў 202 г. Пра іх подзвіг расказана ў дакуменце, які дайшоў да нас пад назвай “Пакуты святых Пэрпэтуі, Фэліцыты і з імі пацярпелых” – адным з самых ранніх тэкстаў такога кшталту. Пачатковая яго частка напісаная ад першай асобы і ўяўляе сабой сведчанне самой Пэрпэтуі і яе настаўніка Сатура.

Святой Пэрпэтуі было 22 гады, яна паходзіла са шляхетнага роду, мела таксама двухгадовую дачку, а Фэліцыта была рабыняю. Таемна ад свайго бацькі, перакананага паганца, Пэрпэтуя пачала наведваць сходы хрысціян і рыхтавалася да хросту. Разам з ёй паверыла ў Хрыста і яе служанка Фэліцыта. Калі на хрысціян пачаліся ганенні, пацярпела таксама і Пэрпэтуя. Разам са сваёй рабыняю яна была кінута ў вязніцу. Бацька ўгаворваў яе падумаць пра маленькае двухгадовае дзіця, але жанчына не адраклася ад Госпада. У вязніцы святыя Пэрпэтуя і Фэліцыта, а таксама трое іншых вязняў прынялі хрышчэнне. Калі яны адмовіліся скласці ахвяру язычніцкім бажкам, іх аддалі на разарванне дзікім звярам на гарадской арэне.

Апынуўшыся сярод звяроў, жанчыны падтрымлівалі адна адну і праслаўлялі Бога, дадаючы сабе мужнасці. Моцна параненых леапардам, іх затым дабілі мячом. Гэта адбылося 7 сакавіка 202 г. Са старажытных часоў святыя былі ў вялікай пашане ў Касцёле, пра што сведчыць таксама і тое, што іх імёны ўзгадваюцца ў Рымскім каноне.

**9 сакавіка – успамін св. Францішкі Рымскай, законніцы.**



Святая Францішка нарадзілася ў 1384 г. у Рыме ў арыстакратычнай сям'і. У маладым узросце мела жаданне ўступіць у манастыр, аднак бацькі пастанавілі выдаць яе замуж. Выйшаўшы замуж, яна нарадзіла трое дзяцей. Нягледзячы на тое, што Францішка паходзіла з заможнай сям'і, яна сама займалася выхаваннем сваіх дзяцей. Францішка клапацілася пра дом і сваю сям'ю, але таксама знаходзіла час на асабістую малітву і служэнне ўбогім. Яна праславілася сваёй дабрачыннасцю. Падтрымлівала касцёлы ў Рыме, дапамагаючы матэрыяльна, таксама пэўны час даглядала ў сваім доме хворых на чуму.

Дамовіўшыся з мужам, яны разам стварылі шлюб чысціні. Святая Францішка заснавала ў Рыме жаночую манаскую супольнасць бенедыктынак-аблатак, якія займаліся міласэрнасцю, а таксама жылі глыбокай малітвай і пакутай. Супольнасць была зацверджана Папам Марцінам V у 1433 годзе. Памерла святая 9 сакавіка 1440 г. ва ўзросце 56 гадоў. Яна мела незвычайныя здольнасці: дар аздараўлення, а нават уваскрашэння памерлых, прароцкі дар, а таксама часта перажывала містычны экстаз, падчас якога наладжваўся духоўны кантакт са сваім Анёлам-ахоўнікам. Да ліку святых далучана Папам Паўлам V у 1609 годзе. Святая Францішка Рымская лічыцца апякункаю жанчынаў.

У іканаграфіі св. Францішка часта прадстаўлена ў чорным хабіце і белым вэлёне ў суправаджэнні анёла. На некаторых абразах яе атрыбутам з'яўляецца асёл – сімвал працавітасці, упартасці, цярплівасці – і адкрытая кніга.

**17 сакавіка – успамін св. Патрыка, біскупа.**



Будучы святы, апостал Ірландыі, нарадзіўся каля 385 – 390 гг. у рымскай Брытаніі. Шлях св. Патрыка да святасці і да Ірландыі быў нялёгкі. Сын рымскіх чыноўнікаў, які служылі ў Шатландыі, ён у дзяцінстве быў выкрадзены ірландскімі піратамі і прададзены ў рабства. Працуючы пастухом у Ірландыі, шмат перадумаў і звярнуўся да рэлігіі. Нягледзячы на гады ў няволі, ён вельмі палюбіў Зялёны Востраў, яго жыхароў, вывучыў мясцовую мову. Ужо як свабодны чалавек манах і святар Патрык марыў вярнуцца ў Ірландыю ў якасці місіянера. Касцельныя ўлады бачылі праўдзівую любоў Патрыка да ірландцаў і таму накіравалі яго як місійнага біскупа на гэтыя тэрыторыі. Хронікі сведчаць, што Патрык ішоў заўсёды туды, дзе Евангелле яшчэ не абвяшчалася. Быў чалавекам надзвычайнай духоўнай упэўненасці і сілы. Ён засноўваў кляштары, касцёлы і школы, а каля 440 г. сярод аднаго з язычніцкіх пляменаў арганізаваў першае біскупства. Дзейнасць святога выклікала моцнае супраціўленне з боку язычнікаў-друідаў, а таксама з боку некаторых рыцараў, якія займаліся разбоем на Зялёным Востраве.

У іканаграфіі св. Патрык часта намаляваны ў адзенні біскупа са змеямі пад нагамі або з канюшынай. Гэта звязана з легендамі, якія распавядаюць пра цуд выгнання змеяў з Зялёнага Вострава, і перакананнем, што св. Патрык ужываў лісточкі канюшыны, каб растлумачыць таямніцу Святой Тройцы. Дата смерці святога дакладна невядомая, як невядомае і месца яго пахавання.

**19 сакавіка – урачыстасць святога Юзафа, абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.**



Святы Юзаф – апякун Найсвяцейшай Панны Марыі і Езуса Хрыста на зямлі. Усе звесткі пра жыццё святога мы знаходзім у Евангеллі паводле Мацвея і паводле Лукі. Нягледзячы на тое, што іх зусім няшмат, менавіта Абраннік Найсвяцейшай Панны Марыі з'яўляецца адной з найбольш значных постацяў у хрысціянстве. Па прафесіі ён быў цесляром, жыў і працаваў у Назарэце і быў заручаны з Марыяй. Першым пра св. Юзафа пісаў св. Іеранім, Папа Леон XIII прысвяціў св. Юзафу энцыкліку, Пій X зацвердзіў Літанію да св. Юзафа, а Ян XXIII уключыў яго імя ў Рымскі канон. Святы Ян Павел II выдаў пастырскі ліст “Redemptoris custos”, у якім паказвае св. Юзафа як узор добрага мужчыны ў нашыя часы.

Дзень імянінаў усіх, хто мае імя Юзаф ці Юзэфа. Святы Юзаф з'яўляецца апекуном добрай смерці. У гэты дзень удзел у св. Імшы з'яўляецца абавязковым.

**25 сакавіка – урачыстасць Звеставання Пана.**



Дзень, у які Арханёл Габрыэль абвясціў дзяўчыне Марыі, што яна стане Маці Бога і што пад яе сэрцам з'явіўся Хрыстус. Ва Усходніх Цэрквах гэтае свята адзначалі ўжо ў V стагоддзі, а на Захадзе – з часоў пантыфікату Грыгорыя Вялікага (VII ст.).

У энцыкліцы “Evangelium vitae”, абвешчанай 25 сакавіка 1995 г., Ян Павел II прапанаваў штогод у гэта свята адзначаць Дзень жыцця, каб звярнуць увагу грамадскасці на яго каштоўнасць. Для таго, каб кожная жанчына і ўсе людзі, нягледзячы ні на якія складанасці і праблемы, па прыкладзе Марыі заўсёды казалі “так” новаму жыццю з моманту зачацця.

У апошнія гады ў Беларусі пашыраецца добрая традыцыя духоўнага ўсынаўлення. Ва ўрачыстасць Звеставання Пана (а таксама і ў іншыя марыйныя святы) многія вернікі бяруць на сябе абавязак на працягу дзевяці месяцаў маліцца за дзіця, якому пагражае небяспека аборту.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## На сакавік прыпадаюць дні нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;
**7 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;
**8 сакавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;
**17 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Уладзімір Грыгор'еў** *(Іспанія)*, **кс. Ігнат Санюта** *(Ірландыя)*;
**18 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;
**28 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Пінская дыяцэзія)*;
**31 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Уладзіслаў Шаркові**ч *(Глыбокае)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***

## Ці магу я прыняць сакрамант бежмавання, калі жыву ў другім шлюбе без вянчання?

*– Хвала Хрысту! Ці магу я прыняць сакрамант бежмавання, калі жыву ў другім шлюбе без вянчання? (Была вянчаная ў першым шлюбе, развялася дзесяць гадоў назад).*
*Юлія*

– Хвала Хрысту, паважаная Юлія! Разважаючы над Сакрамантамі Касцёла, мы сутыкаемся з многімі вельмі важнымі пытаннямі, якія патрабуюць канкрэтных адказаў.

На пытанне, што неабходна, каб прыняць сакрамант бежмавання, нам можа дапамагчы адказаць канон 889 §1 Кодэкса Кананічнага Права 1983 г. Ён пастанаўляе, што *"прыняць сакрамант бежмавання здольны кожны ахрышчаны (і толькі ахрышчаны), які яшчэ не быў бежмаваны"*. Гэтым канонам падкрэсліваюцца неабходныя юрыдычныя ўмовы, каб прыняць узгаданы Вамі сакрамант: трэба быць ахрышчаным і яшчэ не бежмаваным.

Аднак існуюць таксама і іншыя ўмовы – духоўныя. Кожны католік ведае: каб прыняць сакрамант бежмавання, неабходна знаходзіцца ў стане асвячальнай ласкі, гэта значыць, не мець на сумленні смяротнага граху. Пра гэта гаворыць нумар 1310 Катэхізіса Каталіцкага Касцёла: *"Каб прыняць бежмаванне, неабходна знаходзіцца ў стане ласкі. Трэба перад гэтым прыступіць да сакраманту пакаяння, каб ачысціць сябе для прыняцця дару Духа Святога"*.

Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў нумарах 1854–1864 апісвае паняцце смяротнага граху. Смяротны грэх нішчыць любоў у чалавечым сэрцы праз цяжкае парушэнне Божага закону, а таксама адварочвае чалавека ад Бога. Грэх лічыцца смяротным, калі адначасова існуюць тры ўмовы: сур'ёзнасць матэрыі, якая вызначаецца 10 Запаведзямі (парушэнне Божых Запаведзей), смяротны грэх патрабуе поўнай свядомасці (я разумею: тое, што я раблю, з'яўляецца грахом) і поўнай згоды на грэх.

На жаль, у Вашым выпадку, шаноўная Юлія, няма магчымасці прыступіць да сакраманту споведзі (пакаяння), і прыняць сакрамант бежмавання, бо Вашая жыццёвая сітуацыя забараняе гэта зрабіць. Вам забараняе прыступаць да сакрамантаў не факт таго, што вы разышліся з першым мужам, з якім былі венчаныя, а аб'ектыўны факт – сужыццё (знаходжанне ў пазашлюбнай сувязі) і новы шлюб, зарэгістраваны ў ЗАГСе.

Вельмі часта сустракаюцца сітуацыі, калі асобы, развёўшыся і жывучы ў другім, несакрамантальным сужэнстве (без вянчання), знаходзячыся ў стане цяжкага ці смяротнага граху, які забараняе прыступаць ім да сакрамантаў, усё ж такі іх прымаюць. Але тут трэба памятаць, што такім чынам мы падманваем не святара, а ў першую чаргу падманваем Пана Бога і саміх сябе. Трэба памятаць, што сакраманты існуюць менавіта для таго, каб памнажаць у нас Божую ласку, каб яднаць нас яшчэ больш з Хрыстом. А як можа памнажацца ласка, калі яе ўвогуле няма?

Існуюць толькі два сакраманты, для прыняцця якіх не трэба быць у стане асвячальнай ласкі, – гэта Хрост і Споведзь (Пакаянне), бо менавіта яны прыводзяць асобу ад смерці (духоўнай) да духоўнага жыцця.

Але трэба таксама памятаць навучанне Касцёла. Сакрамант споведзі адбываецца пад пэўнымі, неабходнымі ўмовамі. Існуе пяць умоў добрай споведзі: рахунак сумлення, жаль за грахі, цвёрдае пастанаўленне выправіцца, шчырая споведзь, выкананне вызначанай пакуты. У нумары 1450 Катэхізіса Каталіцкага Касцёла гаворыцца: *"Пакаянне абавязвае грэшніка добраахвотна прыняць усе элементы [пакаяння]: у сэрцы – скруху; у вуснах – споведзь; у паводзінах – дасканалая пакорлівасць альбо плённае пастанаўленне выправіцца"*. Асоба, які была павенчана, развялася і жыве ў пазашлюбнай сувязі альбо ў новым шлюбе, зарэгістраваным у ЗАГСе, не мае магчымасці выканаць умовы добрай споведзі, і такім чынам не можа прыступаць да сакрамантаў.

Больш за тое, такая асоба не можа быць вызначана, як хросная маці ці бацька і як сведка бежмавання, бо галоўным заданнем хросных з'яўляецца дапамога бацькам у духоўным выхаванні дзяцей, у выхаванні дзяцей у каталіцкай веры. Такімі людзьмі могуць быць толькі тыя, хто жыве згодна з хрысціянскай маральнасцю і паводле каталіцкай веры.

Перадусім, шаноўная Юлія, Вам неабходна паспрабаваць выправіць сваю жыццёвую сітуацыю, паразмаўляць з мясцовым святаром альбо з якім-небудзь іншым святаром, паглядзець, ці існуюць кананічныя падставы для прызнання вашага адзінага (першага) шлюбу несапраўдным, а пазней паспрабаваць звярнуцца ў Біскупскі Суд. Пры наяўнасці кананічных падставаў ці перашкодаў, якія існавалі, можа, Ваш шлюб будзе прызнаны несапраўдным і Вы атрымаеце магчымасць урэгуляваць сваё духоўнае жыццё.

*З павагай і малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***



# Хто можа прымаць сакрамант намашчэння хворых?

***– Хвала Хрысту! Мяне цікавіць наступнае пытанне. 11 лютага было свята Маці Божай з Люрд. У гэты дзень у касцёле ўдзялялі сакрамант хворых. І ўсе людзі, якія былі ў касцёле, нават і малыя дзеці, падыходзілі і святар іх намашчаў. Скажыце, калі ласка, як сапраўды трэба прымаць намашчэнне і ці можна яго прымаць усім? Дзякуй.***
*Людміла*

– Хвала на векі!

11 лютага 1993 года святы Ян Павел II устанавіў Сусветны дзень хворых. Галоўнай мэтай гэтага дня з'яўляецца супольная малітва і лучнасць з хворымі людзьмі, якія чакаюць нашай падтрымкі і дапамогі. Святы Айцец невыпадкова выбраў гэты дзень. Бо 11 лютага 1858 года адбылося першае аб'яўленне Маці Божай у Люрдзе (Францыя). Мы ведаем, што праз заступніцтва Маці Божай у Люрдзе адбываюцца шматлікія аздараўленні. І менавіта таму духоўным натхненнем і апякункай для хворых з'яўляецца Божая Маці.

Паважаная Людміла, адказ на Вашае пытанне знаходзіцца ў назве сакраманту – сакрамант намашчэння хворых.

Кодэкс Кананічнага Права ў каноне 1004 вельмі ясна гаворыць, каму можна ўдзяляць сакрамант намашчэння: *"Намашчэнне хворых можна ўдзяляць верніку, які дасягнуў магчымасці для ўсведамлення і знаходзіцца ў небяспецы смерці праз хваробу ці старасць"*.

Катэхізм Каталіцкага Касцёла ў нумары 1511 кажа: *"Касцёл верыць і вызнае, што сярод сямі сакрамантаў існуе адзін, спецыяльна прызначаны для ўмацавання тых, хто змучаны хваробай: Намашчэнне хворых (Намашчэнне). Гэтае святое намашчэнне хворых ўстаноўлена Хрыстом, нашым Панам, як сапраўдны сакрамант Новага Запавету, пра які ўзгадвае евангеліст Марк ("Пайшоўшы, яны прапаведавалі пакаянне, выганялі шмат злых духаў і шмат хворых намашчвалі алеем, і вылечвалі" (Мк 6, 12-13), таксама яго раіць вернікам і апостал Якуб, брат Пана"*.

У сваім пасланні святы апостал Якуб кажа, што намашчэнне трэба ўдзяляць хворым, каб іх падтрымаць і збавіць: *"Нехта сярод вас хварэе? Няхай пакліча прэзбітэраў Касцёла, а яны няхай памоляцца над ім і намасцяць яго алеем у імя Пана. Малітва веры ўратуе хворага, і Пан падыме яго, а грахі, якія ўчыніў, будуць адпушчаны яму" (Як 5, 14-15)*.

Апостальская канстытуцыя *"Sacram unctionem infirmorum"* ад 30 лістапада 1972 г., прынятая пасля Другога Ватыканскага Сабору, якая рэгулюе парадак намашчэння хворых, пастанавіла, што *"сакрамант намашчэння хворых удзяляецца небяспечна хворым асобам праз памазанне ілба і далоняў асвячоным адпаведным чынам алеем – аліўкавым ці алеем іншых раслін – і праз прамаўленне слоў: "Праз гэтае святое намашчэнне і сваю бясконцую міласэрнасць няхай Пан умацуе цябе ласкаю Духа Святога. Няхай Пан вызваліць цябе ад грахоў, уратуе і міласціва падтрымае"*.

У нумары 1514 Катэхізм Каталіцкага Касцёла кажа, што намашчэнне хворых не з'яўляецца сакрамантам тых, хто памірае. Час для яго прыняцця несумненна прыходзіць ужо тады, калі вернік пачынае знаходзіцца ў смяротнай небяспецы праз хваробу ці старасць.

Далей Катэхізм Каталіцкага Касцёла ў нумары 1515 зазначае наступнае: *"Калі хворы, які ўжо прыняў намашчэнне, выздаравее, ён можа, у выпадку новай цяжкай хваробы, зноў прыняць гэты сакрамант. Пры адной і той жа хваробе, калі яна ўзмацнілася, сакрамант можа быць прыняты паўторна. Разумна прыняць сакрамант намашчэння напярэдадні сур'ёзнай аперацыі"*. Тое ж самае датычыцца і пажылых людзей. Яны могуць прыняць сакрамант намашчэння паўторна, калі яны заўважальна слабеюць.

Тое, што датычыць прыняцця сакраманту намашчэння дзецьмі, то святое намашчэнне ўдзяляецца ўжо тады, калі яны дасягнулі такой ступені свядомасці, што гэты сакрамант можа іх умацаваць. У выпадку няўпэўненасці, ці дасягнулі яны належнага ўсведамлення, сакрамант трэба ўдзяліць.

З усяго ўзгаданага вышэй можна зрабіць выснову, што намашчэнне хворых прымаецца і ўдзяляецца толькі тады, калі існуе цяжкая хвароба (незалежна ад узросту), калі вернік знаходзіцца ў смяротнай небяспецы праз хваробу альбо калі знаходзіцца ў пажылым узросце. Не трэба прымаць намашчэнне, калі не існуе гэтых вызначаных умоў, бо гаворка ідзе пра важную рэч – сакрамант Касцёла, а не пра нейкую гульню ці забабоны. Не трэба таксама яго прымаць і на "будучыню".

Існуе і яшчэ адна вельмі важная рэч. Да сакраманту намашчэння хворых, як і да кожнага іншага сакраманту, трэба быць адпаведна падрыхтаванымі, знаходзіцца ў стане асвячальнай ласкі, гэта значыць, пасля споведзі. *"Хворыя няхай рыхтуюцца прыняць яго годна, з дапамогай свайго святара і ўсёй касцельнай супольнасці, якая паклікана асаблівым чынам атуляць хворых братэрскай увагай і малітвамі"* (Катэхізм Каталіцкага Касцёла, 1516).

Таксама трэба памятаць, што сакрамант намашчэння хворых не ўдзяляецца тым, хто ўпарта трывае ў яўным цяжкім граху.

*З павагай і малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***

# Некалькі думак



## Чым заняцца падчас посту?



Вялікі пост – час, калі чалавек крыху спыняецца, суцяшае свой звычайны бег і намагаецца зазірнуць у сваё нутро, зразумець, што там адбываецца, каб змяніць сваё жыццё на лепшае. У сучасным свеце ёсць шмат розных парадаў, як добра перажыць Вялікі пост: можна прыняць удзел у рэкалекцыях, нават онлайн – праз інтэрнэт, можна ўзяць шмат добрых пастановаў, напрыклад, чытанне Божага Слова штодня або нейкай іншай духоўнай літаратуры. Я ж прапаную прыняць для сябе адну канкрэтную тэму на пост і паразважаць над ёй. Магчыма, добра было б, каб гэтай тэмай стала прабачэнне. Чаму мне б хацелася звярнуць увагу на прабачэнне? Бо гэта тэма – адна з найбольш жывых і балючых момантаў чалавечых адносінаў. Кожны з нас калісьці быў кімсьці моцна паранены, магчыма, сваімі бацькамі, настаўнікамі, родзічамі, сябрамі, калегамі, кіраўнікамі. Амаль кожнаму з нас вядомае пачуццё крыўды, злосці на крыўдзіцеля, расчараванне. Крыўда спальвае нас знутры, дае хваравітае, атрутнае пачуццё, якое вынішчае добрае стаўленне да чалавека. І мы пачынаем насіць у сваім сэрцы глыбокую горыч, гнеў, нянавісць, што з цягам часу пачынае забіваць нас саміх. Увогуле тэма крыўды, віны і прабачэння настолькі хвалюе, што можна знайсці шмат прысвечаных гэтаму кніг, артыкулаў, лекцый. Я б хацела распавесці пра тыя рэчы, якія ўдалося адшукаць, зразумець і засвоіць асабіста мне ў гэтай тэме.

## Чаму варта прабачыць і быць прабачаным?

Прабачэнне – гэта вызваленне чалавека з няволі. Гэта значыць, што калі мы не прабачаем, то нібы змяшчаем гэтага чалавека ва ўнутранай вязніцы. Незалежна ад таго, вялікае гэтае прабачэнне альбо малое, яно вязняе чалавека і замыкае яго ў вязніцы. Мы праз сваё непрабачэнне становімся таксама звязанымі, мы не можам спакойна рухацца далей і развівацца ў поўнай свабодзе.

***Думаю, што крыўды і непрабачэнне можна параўнаць з вялізным чамаданам, які штодня носіш паўсюль з сабою, а ў ім носіш і ўсіх непрабачаных людзей, іх словы і дзеянні.***

Каб можа больш яскрава ўявіць, што адбываецца ў вашым сэрцы, паспрабуйце хаця б тыдзень панасіць паўсюль з сабою вялікі камень. Думаю, што калі нават вы і прызвычаіцеся да яго, асалоды ад гэтага будзе не шмат. Хачу дадаць, што чамадан крыўдаў і непрабачэнняў з цягам часу толькі набывае яшчэ большы цяжар, і ў рэшце рэшт можа стаць ужо зусім невыносны. Непрабачэнне таксама мае ўплыў на нашу псіхасаматыку і выклікае наступствы ў нашым целе: становіцца прычынай многіх хваробаў і кепскага самаадчування.

## Ці змушае нас хрысціянства прабачаць?



Калі я разбіралася ў тэме прабачэння і шукала нейкія шляхі для сябе, мне было цікава даведацца, што Святое Пісанне кажа пра прабачэнне. Слова "прабачэнне" сустракаецца ў Біблі 13 разоў, а слова "прабач" ажно 28! Увогуле можна сказаць, што Святое Пісанне – гэта бясконцая гісторыя пра любоў і прабачэнне. Але для мяне біблейскае прабачэнне было занадта ідэалістычным, уменне прабачаць успрымалася хутчэй як цнота. Думаю, што такое меркаванне склалася ў мяне праз няправільнае ўспрыманне маёй "балючай сітуацыі" на самым пачатку, дзе гэта бачылася, хутчэй, як пакаранне, чым блаславенне, якім стала ўжо пазней. Хрысціянскі пісьменнік Клайв Стэйплз Льюіс пра прабачэнне пісаў так:

***"Прабачаць тое, што сапраўды заслугоўвае прабачэння, – не з'яўляецца хрысціянскай міласэрнасцю. Гэта толькі справядлівасць. Быць хрысціянінам – значыць, даруваць тое, што не даруецца, таму што Бог дараваў недаравальнае табе самому".***

## Міф пра тое, што час гоіць усе раны

Часта можна пачуць ад іншых людзей такое суцяшэнне: "Спакойна, не перайимайся, час гоіць усе раны..." Калі мы думаем, што для прабачэння патрэбны толькі час, які гоіць усе раны, то гэта няпраўда.

Калі нас моцна раніць іншая асоба, то прабачэнне не можа прыйсці хутка і быць чымсьці само сабой зразумелым. Гэта павінен быць доўгі працэс глыбокай унутранай працы над сабою і сваімі пачуццямі. Безумоўна, час вельмі патрэбны ў гэтай справе. Але не толькі для таго, каб рана зацягнулася, час патрэбны ў першую чаргу для працы над сабою і разуменнем сітуацыі.

## Сякера, якая заўсёды на пагатове...



Калі мы падыходзім да тэмы прабачэння фармальна, то кажам "я прабачаю", не дараваўшы шчыра. Мы робім выгляд, што даравалі, фармальна выканаўшы сацыяльныя і рэлігійныя "нормы і правілы". Мы кажам: "Я табе прабачаю, але не хачу мець з табою нічога супольнага". Такім чынам мы не толькі не выкрываем гнайнік, а заганяем яго глыбока ўнутр. Але гнайнік нікуды не знікае. Гэта пастка. Такое "прабачэнне" можа сведчыць толькі пра адсутнасць шчырага даравання і наяўнасць моцнай крыўды і ўнутранага болю.

***Чалавек, які кажа, што прабачае, але заўсёды памятае, што адбылося, гэта той, хто закопвае сякеру ў зямлю, а сякерышча трымае на паверхні – так, на ўсялякі выпадак...***

## З чаго варта пачаць шлях прабачэння?

З усведамлення ўласных ранаў. Калі прабачэнне іншай асобе не прыходзіць лёгка, гэта можа быць сведчаннем таго, што мы павінны дакрануцца да сваіх унутраных, можа, нават дзесьці ўтоеных ранаў і зразумець свой боль. Калі мы бяздумна падыходзім да ранаў іншай асобы і перакрэсліваем яе як добрага чалавека, не намагаючыся зразумець корань яе нядобрых паводзінаў, гэта можа сігналізаваць нам пра занядбанне нашых уласных ранаў. Бо, верагодна, я сам настолькі зранены, што ўжо не маю жадання шукаць горкі корань свайго крыўдзіцеля. Гэта таксама працуе і ў іншы бок: мы абыякава ставімся да ран, якія наносім іншым таму, што абыякава ставімся да сваіх ран.

***Калі ты сапраўды прагнеш прабачыць іншай асобе, пастарайся паглядзець на гісторыю яе жыцця праз прызму любові.***

Не задавай сабе пытання, чаму ён пакрыўдзіў менавіта мяне? Спытай лепей у сябе: хто і як пакрыўдзіў яго, што ён так крыўдзіць мяне? Кажуць, што кусае не той сабака, які злы, а той, які ў сваім жыцці спазнаў зло...

## Памятай, што ты не Суддзя...



Першае, з чаго трэба практычна пачаць, гэта перастаць асуджаць іншую асобу і чакаць пакарання. Кажуць, што не бывае аднаго вінаватага, заўсёды вінаватыя абодва. Магчыма. Але не факт. Бывае па-рознаму. І вось на дадзеным этапе я прапаную гэтым не займацца. Не высвятляць, хто з'яўляецца агрэсарам у пэўнай сітуацыі, а хто ахвярай. Ёсць той Суддзя, Які стаіць па-над усім і ведае ўсе абставіны лепш за нас. На гэтым этапе варта пастарацца зразумець, што я не маю права быць Суддзёю.

Памятаю, як мне пачалавечы хацелася ўбачыць пакаранне майго крыўдзіцеля. Я чакала "Божай справядлівасці", і вельмі пажадана было ўбачыць тую "справядлівасць" на ўласныя вочы... Але гэтага не адбывалася. І я была абураная. Але

***Бог значна большы за нашае малое ўяўленне пра Яго, Божая міласэрнасць значна большая за нашае чалавечае ўяўленне справядлівасці.***

Ведаеце, гэта як у тым жарце, дзе сусед крыўдзіцца на Бога, калі Той не выслухоўвае яго вельмі важную просьбу: каб здохла карова ў суседкі...

Напэўна, самым мудрым рашэннем наконт малітвы за свайго крыўдзіцеля будзе не тая, калі адразу пасля "ранення" ты пачынаеш па-хрысціянску маліцца за "сваіх ворагаў і ганіцеляў", а тая, калі, ужо стоячы крыху над сітуацыяй, калі ўжо не так баліць, пачынаеш прасіць Госпада, каб Ён аздаравіў гэтую гісторыю так, як Ён гэтага хоча.

*Працяг на стар. 13*



# пра прабачэнне



## Не зайздросць, што твой Бог добры…

Маім улюбёным урыўкам з Бібліі з'яўляецца гісторыя прарока Ёны, які павінен быў ратаваць нінівіцянаў – тых людзей, якіх фактычна лічыў сваімі непрыяцелямі. Уявіце сабе: Ёна, які пасля доўгіх выпрабаванняў пагаджаецца з Божай воляй і ідзе прарочыць і абвяшчаць нінівіцянам (сваім ворагам) пакаянне, бачыць, што яго ворагі не толькі не загінулі, але навярнуліся да Бога і ўратаваліся. Уявіце яго эмоцыі. Ёна выканаў сваю прароцкую місію не з любові, а з паслухмянасці Богу. Але яго сэрца не прабачыла нінівіцянам. І тут Госпад вельмі мудра змяняе сэрца Ёны…

Стаяла гарачае надвор'е. Ёна сядзеў на ўскрайку горада і назіраў, з надзеяй чакаючы гібелі Нінівы. Госпад у адну ноч вырасціў нейкую расліну, пад ценем якой схаваўся Ёна ад пякучага сонца. Ёна вельмі ўзрадаваўся. А на наступную ноч Госпад зладзіў так, што чарвяк падтачыў корань расліны, і яна загінула. А сонца пачало прыпякаць яшчэ мацней. Ёна быў стомлены, расчараваны і абураны. Я ўяўляю, як ён сядзеў і, магчыма, ад бяссілля проста плакаў. Не вытрымаўшы, ён пачаў прасіць Бога пра смерць. Госпад спытаў у Ёны, што з'яўляецца прычынай ягонага смутку? Ёна адказаў, што расліна, якая загінула. І тады Госпад сказаў: "Ты шкадуеш расліну, над якой не працаваў і якую не гадаваў, у адну ноч яна ўзнікла і ў адну ноч знікла. Ці мне не пашкадаваць Нінівію, горад вялікі, у якім больш за сто дваццаць тысяч чалавек, і якія не адрозніваюць правай рукі ад левай?"

***Гісторыя, пасля разважання над якой я паглядзела сабе на рукі і падумала: не адрозніваць левую ад правай – гэта ж страшна! Ці я зайздрошчу, што Госпад добры?..***

## Разарваць ланцужок крыўдаў



Чалавек, які ў сваім жыцці не спазнаў любові, не можа адразу палюбіць іншых. Ён робіць гэта так, як разумее ці адчувае само паняцце любові. Чалавек, які калісьці быў моцна зранены кімсьці, будзе раніць іншых. Атрымліваецца як бы замкнутае кола...Такі просты прыклад: на працы на вас накрычаў начальнік, па дарозе дадому ў транспарце нехта вам выпадкова стаў балючa на нагу або неяк непрыемна на вас паглядзеў... Усё, настрой сапсаваны. Вяртаецеся дадому – і ўжо тут знаходзіце сваю "мішэнь", і раніце кагосьці з блізкіх. Знаёма? Канешне, прыклад утрыраваны, але так адбываецца з нашымі крыўдамі і непрабачэннем.

***Каб скончыць з хворым ланцужком крыўдаў, нам важна усвядоміць, што адбываецца: мяне крыўдзяць, мне баліць, але я не ўступаю ў гэтую гульню і не іду крыўдзіць далей. Я прабачаю. Ланцужок крыўдаў распадаецца...***

Толькі ўявіце сабе, што было б з намі, калі б Езус не прабачыў тым, хто асудзіў Яго на крыж? Алё Ён першы разрывае гэты ланцужок крыўдаў і дае нам гэты прыклад.

## Я прабачаю ў сэрцы, і мне гэтага хапае…

Існуюць такія сітуацыі, калі думаць пра прабачэнне ўжо позна або нават прабачаць ужо няма каму, бо чалавека ўжо няма на гэтым свеце. Здавалася б, складаная сітуацыя. Але калі мы верым у жыццё вечнае, то прабачэнне заўсёды застаецца важным і магчымым.

Існуе таксама такое меркаванне, што дастаткова чалавеку прабачыць толькі ў душы, бо гэта толькі твая асабістая справа, твая ўнутраная свабода. Кажуць, што эфект прабачэння ніяк не залежны ад іншай асобы.

У кнізе Д. Анджа "Зранены пастушок" ідзе гаворка пра моцна зраненага чалавека, які ў сваім жыцці нарабіў шмат памылак. Але аднойчы, сустрэўшы Езуса, ён атрымлівае магчымасць быць аздароўленым. Для свайго аздараўлення яму трэба толькі адно: прабачыць усіх сваіх крыўдзіцеляў. Езус, дакранаючыся да кожнай раны зраненага чалавека, дакранаўся да кожнай хворай гісторыі гэтага чалавека і праз яго прабачэнне аздараўляў яго раны. Зранены, прыпамінаючы ўсё сваё жыццё, у сваіх думках і ў сэрцы прабачаў кожнаму крыўдзіцелю. Але Езус пазней паказвае яму, што гэтага недастаткова. Ён прыводзіць чалавека да дзвярэй дома яго былога сябра, які яго моцна раніў. Вядома, што зранены чалавек проста марыць, каб іх сустрэча не адбылася. Але Езус настойвае, каб тое, што адбылося ў сэрцы чалавека, яго прабачэнне, было даравана гэтаму чалавеку пры асабістай размове.

Мне здаецца, што гэтая гісторыя ёсць добрай ілюстрацыяй да дзеянняў чалавека, які хоча быць аздароўлены і атрымаць свабоду.



## Ад словаў да дзеянняў. Практычныя парады

- Калі ёсць такая магчымасць, выкажы чалавеку сваё прабачэнне / або прасі пра дараванне ў асабістай размове.
- Калі няма магчымасці асабістай размовы, напішы да гэтай асобы ліст.
- Паблаславі чалавека, які цябе зраніў.
- Калі адчуваеш, што ўчыненая крыўда перастала моцна балець і ты стаіш нібыта над сітуацыяй, можаш пачаць маліцца і прасіць, каб Госпад заняўся гэтай гісторыяй.
- Калі зусім не можаш справіцца з сітуацыяй непрабачэння і гэта з'ядае цябе, раю звярнуцца да хрысціянскага псіхатэрапеўта: магчыма, ты патрабуеш дапамогі.

***Важна! Падумай: калі ты просіш у кагосьці прабачэння ці прабачаеш ты ў сваім жыцці? Калі ты памыляешся ў сваім жыцці, ці даеш ты права на памылку іншай асобе?***

Я жадаю вам, каб у вашым жыцці не знайшлося такой гісторыі, якую б не змог аздаравіць Госпад.

*Вікторыя Колзун*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Эвеліна Богуш** *(Перaслега)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Валерыя Шакель** *(Лугі)*, **Станіслаў Вышадка** *(Заваpаты)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Данута Голубева** *(Бабінавічы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Марыя Кісель** *(Глыбокае)*, **Жусель А.К.** *(Петкунішкі)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Ціхая Р.З.** *(Камарова)*, **Лубнеўская М.З.** *(Мядзель)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Тэрэса Павучонак** *(Сынадворцы)*, **Бенедзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Антаніна Главацкіх** *(Івацэвічы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Лапушынская Р.В.** *(Коўзаны)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Лук'янская А.В.** *(Пялікі)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Цімафеева О.М.** *(Янковічы)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Вашкель Р.М.** *(Дворнае Сяло)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Пілецкая А.В.** *(Новалукомль)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Падпішыся на "Каталіцкі Веснік"

**Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".**

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры!**

Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Парафіяне касцёла Св. Апосталаў Пятра і Паўла ў Дрысвятах выказваюць глыбокае спачуванне нашаму шаноўнаму ксяндзу Генадзю Ляўкову, яго бацькам і родным з прычыны заўчаснай смерці любімага брата Аляксандра.

*Ад імя вернікаў парафіі, Леакадзія Енікава*



## Ад шчырага сэрца віншуем хор "Ave Maria" з дваццацігодзем!

*Хочам падзякаваць Пану Богу за тое, што такі цудоўны хор ёсць у нашай парафіі! "Хто спявае, той двойчы моліцца", – сказаў святы Аўгусцін. А вы, дарагія харысты, яшчэ і ўпрыгожваеце сваім спевам Імшу ў нядзелю і святы. Дзякуй Вам за гэтае шчырае, часамі цяжкае, але такое прыгожае служэнне!*

*Жадаем кожнаму з вас натхнення, душэўных і фізічных сілаў, няспыннага павышэння ўзроўню і Божага благаслаўлення на вашым творчым шляху!*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы з Глыбокага***

## Хвала Хрысту!



*Дасылаем шчырыя віншаванні нашаму былому пробашчу **ксяндзу Крыштафу Мянкіну** з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначае 22 лютага.*

*Шаноўны ксёндз Крыштаф, жадаем Вам моцнага здароўя, дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі! Няхай Вас заўсёды аберагае Анёл-ахоўнік!*

*Вы ўжо далёка ад нас, але мы памятаем Вас у сваіх малітвах. Нізка кланяемся і дзякуем Вам за клопат і ласку, за мудрыя казанні, за дабрыню і сардэчнасць, за ўсё, што было зроблена ў нашай парафіі за гады, якія Вы былі з намі.*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Унебаўзяцця НПМ і Язафата Кунцэвіча ў г. Мёры***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Праз газету "Каталіцкі Веснік" хачу павіншаваць з Днём нараджэння (13 лютага) **Ніну Марунька** і выказаць вялікую падзяку. Гэта незвычайны чалавек. А якое ў яе добрае сэрца! У мяне склаліся праблемы са здароўем. Раней я заўсёды хадзіла ў касцёл, а цяпер не маю такой магчымасці. І ніхто мне не падаў рукі дапамогі акрамя Ніны Мікалаеўны. Заўсёды патэлефануе, пацікавіцца станам майго здароўя, раскажа што новага ў касцёле. А калі мне трэба было прайсці медыцынскае абследванне, яна мне вельмі дапамагла, хоць сама ўжо ў сталым узросце і мае шмат хвароб.*

*Шаноўная Ніна Мікалаеўна!*

*Вялікі дзякуй табе за дапамогу, за тваё добрае сэрца!*

***Эма Роўда, г. Новалукомль***

## Ваша Эксцэленцыя! Паважаны біскуп Алег!



*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" разам з чытачамі і карыстальнікамі партала Catholicnews.by шчыра віншуе Вас з днём Вашага Нябеснага Заступніка!*

*Няхай Той, хто з'яўляецца Добрым Пастырам вядзе Вас праз цяжкасці жыцця і біскупскай паслугі, удзяляючы патрэбныя ласкі для выканання даверанай місіі.*

*Хай Дарадца дае ласку мудрасці і эфектыўнасці ў абвяшчэнні Божага Слова, якое свеціцца, як лямпа, і не гасне ў начны час.*

*Няхай Марыя, Маці Касцёла разам са святымі і блаславёнымі сведкамі веры будуць заступнікамі перад Айцом у небе ва ўсіх Вашых справах і ўсёй дыяцэзіяльнай сям'і.*

*Няхай Дух Святы кіруе Вамі як пасланнікам праўды і дабра Касцёла, а абвешчаная Вамі Добрая Навіна напаўняе вернікаў жывой верай, надзеяй і любоўю.*

## Шчыра віншуем!



*Шчыра віншуем **ксяндза-пробашча** пастаўскага касцёла Святога Антонія Падуанскага **Вадзіма Прасяного** з Днём нараджэння, якое прыпадае на 18 лютага! Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, за сакраманты, якія ён нам удзяляе, за паглыбленне нашай веры. Няхай Бог аддзячыць яму сваёй міласэрнасцю, напоўніць кожны дзень дабрынёй і любоўю! Ахінаем шаноўнага пробашча сваёй малітвай!*

***З павагай, парафіяне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*28 лютага **ксёндз Раман Мурзіч** адзначае дзень імянін.*

*Шчыра віншуем! Жадаем Вам, ксёндз Раман, Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, Божай мудрасці, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, моцнага здароўя!*

*Дзякуем Вам за Божае слова, за Ваша добрае сэрца. Няхай Усемагутны Бог і Анёл-ахоўнік заўсёды берагуць і падтрымліваюць Вас!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Імя НПМ у Параф'янаве***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

## Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

**У Касцёле распачаўся перыяд Вялікага Посту. Прапануем табе разам з Пазнавайкай праверыць свае веды пра гэты літургічны перыяд.**

**1.** Выберы колер арнату, які ўжываецца ў Літургіі падчас Вялікага Посту.




**2.** Калі па чарзе выпішаш усе літары толькі з воблачкаў, зможаш прачытаць евангельскі заклік, які часта чуем падчас Вялікага Посту. Правер сябе: **Мк 1, 15.**




**3.** Разгадай рэбус і даведайся, як звалі вучня, які выдаў Хрыста на смерць.




**4.** У гэтым заданні трэба прыпомніць словы Хрыста, якія прагучалі на апошняй вячэры.



Падчас апошняй вячэры Езус узяў хлеб у свае рукі, благаславіў, паламаў яго і даў сваім вучням, кажучы:
"Бярыце і ешце з гэтага ўсе: бо гэта ёсць____________________ (*дапоўні сказ*).

**Потым узяў келіх з віном, благаславіў і падаў сваім вучням кажучы:**

"Бярыце і піце з яго ўсе: бо гэта ёсць______________ ______________(*дапоўні сказ*).



**5.** Мы ведаем, што падчас апошняй вячэры Езус Хрыстус устанавіў два сакраманты. Якія? Адзнач, якія сакраманты ўстанавіў Езус у Вялікі Чацвер.






















*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Калі шукаеце арыгінальныя падарункі і сувеніры, Вам сюды!

У нас можна замовіць розныя хрысціянскія вырабы ручной работы: нататнікі, вокладкі на пашпарт, фотаальбомы, сувенірныя карціны, выкананыя па тэхніцы String Art, паштоўкі. На фотаздымках, што пададзены ніжэй, паказана толькі невялікая частка работ. Вы можаце таксама замовіць іншы выраб, а мы зробім усё па вашым пажаданні.

**Сувязь праз сацыяльныя сеткі:**
@astasevichsviatlana (Instagram)
Sviatlana Astasevich (VK)
або па тэлефоне:
+375 (33) 308 13 67.

Дастаўка ажыццяўляецца накладзеным плацяжом праз "Белпошту" або, калі вы знаходзіцеся ў Мінску, асабіста.
УНП: AC3028638





# Як можна з дзецьмі памаліцца падчас Крыжовага шляху?

## Прапаноўваем буклет на Вялікі пост!









**Буклет (А4) змяшчае:**

- Ілюстрацыі стацый Крыжовага шляху;
- Спеў (з нотамі), які можна выкарыстаць у часе набажэнства Крыжовага шляху;
- Налепкі з пастановамі на Вялікі пост. Нумар пастановы адпавядае нумару малюнка, змешчанага на знешнім баку буклета.

**Кошт (1шт):**
1 шт. – 1р.
50 шт.> – 0,95 р.
100 шт.> – 0,90 р.

**Інфармацыя па тэлефонах:**
+375 (29) 6391840
а. Станіслаў Вашкевіч
+375 (33) 3081367
Святлана

**Як выкарыстаць налепкі?**







## Чаму мы не чуем адзін аднаго? Хрысціянскі псіхолаг правядзе семінар у Полацку

Парафія Святога Андрэя Баболі ў Полацку запрашае 29 лютага ўсіх жадаючых на семінар "Чаму мы не чуем адзін аднаго?", які правядзе прафесійны хрысціянскі псіхолаг Наталля Пан.

**Праграма:**
**9.00–10.30** – першая лекцыя; перапынак на каву;
**11.00–12.30** – другая лекцыя;
**13.00** – абед;
**14.00–15.30** – трэцяя лекцыя.

**Папярэдні запіс абавязковы** па тэл. +37529 558-46-25 – с. Таццяна Гмыза

## Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач"

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78; МТС + 375 (29) 532 68 66; 8 (02157) 3-30-44 Сайт:** http://svetotch.by/



"Светач" – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7**
1 – В; 2 – А; 3 – Б; 4 – В; 5 – А; 6 – Б; 7 – В; 8 – А; 9 – Б; 10 – А

# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасылаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;
*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;
*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

*Рэдакцыя сайта Catholicnews.by*



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 887

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 19.02.2020 г. у 09.27

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь